20 красавіка 2018 | № 14 (577)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144




Нашто немцам Пучдэман?
Стар. 9






# Гэта салодкае слова: «праймерыз»



Сяргей ПУЛЬША

**Тое, што апазіцыя (прынамсі, частка яе) ужо зараз пачала падрыхтоўку да прэзідэнцкіх выбараў — безумоўна, факт станоўчы. Але тое, што яна пакуль не здолела выпрацаваць нейкіх новых стратэгій і механізмаў, — насцярожвае.**

Лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька 14 красавіка, пасля пасяджэння палітрады партыі, паведаміў БелаПАН, што правацэнтрысцкая кааліцыя (куды ўваходзяць АГП, Рух «За Свабоду» і аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя») плануе вылучыць на наступных прэзідэнцкіх выбарах адзінага кандыдата. Праўда, калі адбудуцца тыя выбары, пакуль не вядома: улады яшчэ разважаюць наконт графіку выбарчай кампаніі. Але, як «вангуе» Лябедзька, датэрміновых прэзідэнцкіх выбараў не будзе. Паводле яго меркавання, у 2019 годзе пройдзе парламенцкая кампанія, а ў 2020-м — прэзідэнцкія выбары.

Тым не менш, да любога сцэнару трэба быць гатовым. Вызначэнне свайго кандыдата ў прэзідэнты бліжэйшым часам — безумоўна, мэта слушная. Калі з гэтай асобай вызначыцца хаця б да канца 2018-га, спатрэбіцца менш часу на «раскрутку», на стварэнне ініцыятыўных груп па зборы подпісаў і гэтак далей. Карацей, не трэба будзе «раскачваць» свае структуры, каб яны ўліліся ў працу.

А вось што тычыцца метаду, якім плануюць вызначыць таго самага адзінага правацэнтрысцкага кандыдата, — ён выклікае шмат сумневаў.

Лябедзька кажа пра праймерыз — то бок, правядзенне гэткага «папярэдняга галасавання» насельніцтва з мэтай абраць найбольш папулярную ў народзе кандыдатуру. «Мы гэтую працэдуру праводзілі ў 2009 годзе. Хочам у рамках правацэнтрыстаў абмеркаваць правядзенне праймерыз, а затым і магчымасць удзелу ў гэтай працэдуры прадстаўнікоў іншых структур», — сказаў Лябедзька.

Сапраўды, была нават не адна, а дзве спробы правесці праймерыз. Першая — у 2009 годзе, але тут партыйны лідар крыху пакрывіў душой. Тады апазіцыя толькі выпрацоўвала працэдуру гэтага дзейства, і павінна была яе ратыфікаваць ды зацвердзіць. Аднак да ратыфікацыі, праз унутрыапазіцыйныя спрэчкі, справа так і не дайшла. Адпаведна, фізічнага ўвасаблення гэты праймерыз не меў, а тым больш замест «адзінага» дзясятак дэмакратычных кандыдатаў на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года.

Другая спроба правесці праймерыз мела месца ў 2014 годзе. Тады, падаецца, усё было вырашана слушна. Падрыхтаваны «пілотны горад» — Бабруйск, галасаванне павінна было адбыцца падчас мясцовых выбараў: наконт найбольш сімпатычнага кандыдата ад апазіцыі павінны былі выказвацца людзі, якія прыйшлі на выбарчыя ўчасткі. Нібыта можна было прагаласаваць поштай (ад ідэі інтэрнэт-галасавання — верагодна «накрутачнага» — адмовіліся). Але і тут не атрымалася. Як казаў тады намеснік Лябедзькі Леў Марголін, у Бабруйску здарыўся «вельмі інтэнсіўны «наезд» на мясцовых актывістаў з боку КДБ, іх папярэдзілі пра ўсе магчымыя наступствы», і «па Бабруйску мы прынялі рашэнне, што лепш людзей не падстаўляць».




Будзем шчырымі: з таго часу ў палітычнай сістэме Беларусі нічога не змянілася. І рэпрэсіўны апарат працуе як мае быць. КДБ і іншыя сілавыя структуры заўсёды гатовыя ў чарговы раз «наехаць» на мясцовых актывістаў. Прычым, гатовыя больш, чым калісьці — ва ўмовах перманентнага «скарачэння штатаў» ім жыццёва неабходна даказваць сваю патрэбнасць. Апазіцыя знаходзіцца ў тым жа стане раздробленасці (калі не ў горшым), і абраць сапраўды «адзінага» ў іх наўрад ці атрымаецца. Нікуды не падзеўся і арганізацыйна-рэсурсны крызіс.

У 2009 годзе ўжо нябожчык, палітолаг Віталь Сіліцкі казаў, што правядзенне праймерыз у краіне малаверагодна: «Беларускія партыі проста не валодаюць інфраструктурай для гэтага». На жаль, з тых часоў нічога не змянілася.

Увогуле, усе сумневы наконт мажлівасці праймерыз ад 2009 і 2014 гадоў нікуды не зніклі і цяпер: што ў папярэднім удзел толькі палітызаваная праслойка грамадства (дый тое не ўся). Што ў выніку абяруць не найбольш моцную фігуру, а найбольш актыўную структуру, якая здолела мабілізаваць на апытанку сваіх прыхільнікаў. Што на выхадзе можа атрымацца «драўляны» кандыдат, які задаволіць партыйных лідараў і актыў, але не будзе ўспрыняты народам. Адсутнасць гарантый, што на «адзінага» будуць працаваць прайграўшыя, — і далей, далей, далей.

Больш за тое, як паказалі нядаўнія мясцовыя выбары, нічога не змянілася (і не збіраецца змяняцца) у выбарчай сістэме краіны. Які сэнс у праймерыз, калі выбары праходзяць з прадвызначаным вынікам?

Ці не стануць у такіх варунках праймерыз марнаваннем грошай і рэсурсаў?

Але цікава, што ідэя «перадгаласавання» бударажыць розумы не толькі правых. На з'ездзе БСДП (Грамада) прысутны госць — намеснік старшыні Беларускай партыі «Зялёныя» Дзмітрый Кучук — таксама агучыў ідэю вылучэння адзінага левага кандыдата ў прэзідэнты. І таксама праз праймерыз, у якіх удзельнічалі б прадстаўнікі «Зялёных», БСДП (Грамада), Беларускай партыі левых «Справядлівы свет», прафсаюзаў.

Два праймерыз на адну краіну — ці не занадта?

# Момант, калі дзяржава нагадвае пірата-няўдачніка

Павел РОС, «САЛІДАРНАСЦЬ»

**Адзін з найбуйнейшых заводаў па вытворчасці шкла перайшоў з прыватных рук у дзяржаўныя. Чаму гэта вельмі дрэнна?**

Шмат хто з беларускіх чыноўнікаў, напэўна, глядзеў даволі вядомы фільм пра пірата Джэка Вараб'я. Калі адкінуць нясціплае абаянне гэтага персанажа, то лёс яго быў вельмі сумны. Знакаміты пірат лёгка заваёўваў самыя багатыя чужыя караблі, але... вельмі хутка іх губляў — і зноў заставаўся ля разбітага карыта.

Здаецца, што паводле падобнага сцэнару дзейнічае і беларуская дзяржава. Праўда, выглядае гэта не смешна, а вельмі сумна.

Стала вядома, што дзяржава дэ-факта нацыяналізавала адно з буйных прыватных прадпрыемстваў Беларусі — «Шклозавод «Ялізава». Дэ-юрэ прынадны актыў за 17 з лішнім мільёнаў долараў набыў Гродзенскі шклозавод у рамках адкрытай працэдуры банкруцтва. Але выгандлеваныя грошы ў выніку, хутчэй за ўсё, зноў вернуцца дзяржаве.

Бо завод належаў таму самаму бізнесоўцу Аляксандру Мураўёву, які ў адзін момант стаў непажаданы беларускім уладам — і апынуўся за кратамі.

Прадпрымальнік сваю віну не прызнаў і ўсю суму «абавязку» дзяржаве выплачваць адмовіўся. Магчыма, менавіта таму ўслед за «Мотавела» ў дзяржаўную ўласнасць перайшоў і названы шклозавод.

Цяпер прадпрыемствам будуць кіраваць упраўленцы ад дзяржавы. Каб ацаніць перспектывы калісьці паспяховага прадпрыемства ў дзяржаўных руках, дастаткова прыгадаць дзве красамоўныя лічбы.

Толькі ўдумайцеся: па стане на 1 сакавіка 2018 года аб'ём праблемнай запазычанасці дзяржаўных прадпрыемстваў Беларусі склаў 360 мільёнаў долараў у эквіваленце.

Акрамя таго, менавіта на долю дзяржпрадпрыемстваў прыходзіцца 54% усіх праблемных крэдытаў, выдадзеных беларускімі банкамі.

Выходзіць, замест таго, каб наводзіць парадак і латаць дзіркі сваіх караблёў, якія тонуць, дзяржава вырашыла танна займець яшчэ адзін — пакуль новы і прыгожы. Праўда, як доўга ён застанецца на плаву з такім капітанам — вялікае пытанне.

**Пераклад НЧ**

# У Маладзечне працаўнікам ужо трэці месяц не выплачваюць заробак

**Тры месяцы без заробку. Гэтак выглядае сітуацыя на Маладзечанскім заводзе металаканструкцый. Раней працаўнікі атрымлівалі па 200 рублёў, а цяпер прадпрыемства і гэтага заплаціць не ў стане. Як выжыць у такой сітуацыі і чаго чакаць далей?**

Раней Маладзечна называлі Горадам Сонца. Але пасля закрыцця буйных прадпрыемстваў горад стаў ператварацца ў дэпрэсіўную правінцыю з вельмі цьмянымі перспектывамі.

Так, на Маладзечанскім заводзе металаканструкцый працаўнікам ужо трэці месяц не выплачваюць заробкі. Апошнія паўгода давалі выключна аклад — дзвесце рублёў.

«Два месяцы не плацяць! Не ведаю, што тут будзе, гэта толькі начальства ведае!»

«Прыходзіцца так вось — хадзіць на працу. Ну а сям'ю ж нечым карміць... Сказалі — чакайце, і ўсё. Даюць кожную пятніцу па 10 працэнтаў там, дапусцім. Ну, не кожную там... Нічога тут, ніякіх перспектыў».

«Выжываем! На што? Займаем, пазычаем! Бяда на заводзе, бяда!.. Няма працы. Я электрыкам працую — 30 гадоў прапрацаваў. Вось такія справы. 200 рублёў — што гэта за зарплата? Пражыві за 200 рублёў. Двое дзяцей!»

Паводле працоўных, кіраўніцтва заводу тлумачыць такі стан спраў адсутнасцю буйных замоваў для прадпрыемства. У сваю чаргу, галоўны бухгалтар заводу Павел Саўчук не змог пракаментаваць сітуацыі з нявыплатай заробку. «Не магу ні пацвердзіць, ні зняпраўдзіць гэтай інфармацыі», — заявіў Павел Саўчук.

Дырэктара прадпрыемства Алега Месніка яшчэ год таму разам з галоўным бухгалтарам адправілі за краты за карупцыю. З таго моманту завод фактычна не мае кіраўніка.

«Паступова нашы буйныя яшчэ савецкія прадпрыемствы будуць ператварацца альбо ў неліквіды, парастаць травой, альбо ўрад у лепшым выпадку паспрабуе нешта прадаць. Але паколькі ён прадае па такім кошце, што ніхто не купляе, таму больш верагодна, што ў малых гарадах гэтыя прадпрыемствы будуць проста стаяць і ператварацца ў руіны», — кажа Яраслаў Раманчук.

Кіраўніцтва заводу прапаноўвае людзям проста звальняцца, калі яны не задаволеныя ўмовамі працы і аплатаю. Выглядае як банальны шантаж, бо ім проста няма куды ісці. У горадзе знайсці працу надзвычай складана, а ўзровень заробку ўсё той жа — 200–300 рублёў.

Жыхары Маладзечна кажуць: «Мінск побач, палова насельніцтва ў Мінск едзе на працу... А тут увогуле няма працы. Толькі што — гандаль, прадпрымальнікі на базары».

«Цяжка. Няма працы, грошай людзям не плацяць!»

«Вось вы мяне здымаеце, потым мяне звольняць. Ну і што? Вам ад гэтага лягчэй? І гэтым лягчэй не будзе».

«Ладна! Яшчэ з заводу выганяць!»

Знікненне буйных прадпрыемстваў стала сапраўднай праблемай для Маладзечна. Замест заводу «Модуль» у агромністым будынку цяпер месціцца гандлёвы цэнтр. А былыя цэхі заводу «ЦяжМет» проста стаяць закінутыя літаральна ў самым цэнтры гораду. Станкабудаўнічы завод, завод парашковай металургіі, радыёзавод «Спадарожнік» — даўно ўжо не гіганты прамысловасці.

«У Маладзечне шмат прадпрыемстваў, якія мелі сэнс яшчэ ў савецкай структуры эканомікі. Сёння няма попыту — няма чаго за гэтыя заводы трымацца. Гэта шлях, які прайшлі амерыканскія прадпрыемствы, нямецкія, брытанскія. І калі няма попыту на гэтыя металы, на гэтыя жалезабетонныя канструкцыі, проста трэба прадаць гэта тым людзям, якія маюць нейкую канцэпцыю, што з гэтым зрабіць», — мяркуе Раманчук.

Але пакуль мы бачым, што дзяржава жадае працягваць уручную кіраваць амаль усімі сферамі эканомікі. Прыклад Маладзечна добра паказвае, куды такое кіраванне прыводзіць.

**Зміцер Міцкевіч, «Белсат»**

# Што трэба ведаць пра дактыласкапічную рэгістрацыю

**Хто абавязаны здаваць дактыласкапічную інфармацыю і ці могуць браць адбіткі пальцаў сілай — у прававым лікбезе ад праваабаронцаў «Вясны».**

Вылучаюць абавязковую і добраахвотную дактыласкапічную рэгістрацыю.

Па ўласным жаданні здаць адбіткі пальцаў могуць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія дасягнулі 18-гадовага ўзросту, па месцы жыхарства або знаходжання на падставе пісьмовай заявы і пры наяўнасці дакумента, які сведчыць асобу.

Непаўналетнія могуць таксама быць добраахвотна дактыласкапіраваныя на падставе заявы бацькоў і пры іх прысутнасці з дакументам, які сведчыць асобу, і з пісьмовай згоды саміх непаўналетніх, якія дасягнулі 14-гадовага ўзросту.

**— Хто падлягае абавязковай дактыласкапічнай рэгістрацыі?**

— Абавязкова здаваць адбіткі пальцаў павінны:

- грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія прызываюцца і паступаюць у добраахвотным парадку на вайсковую службу ва Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь, а таксама якія прызываюцца на альтэрнатыўную службу, праходзяць ваенную службу ў дзяржаўных органах, у якіх прадугледжана ваенная служба, іншых войсках і воінскіх фарміраваннях Рэспублікі Беларусь;
- грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія праходзяць службу або працуюць у органах унутраных спраў, прафесійных аварыйна-выратавальных службах, падатковых органах, мытных органах, Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, органах фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь, органах пракуратуры, Следчым камітэце Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўным камітэце судовых экспертыз Рэспублікі Беларусь.
- чальцы экіпажаў паветраных, марскіх і рачных судоў Рэспублікі Беларусь;
- асобы, якія працуюць на небяспечных вытворчых аб'ектах;
- грамадзяне Рэспублікі Беларусь, замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, прызнаныя недзеяздольнымі або абмежаваныя ў дзеяздольнасці па рашэнні суда; падазраваныя (абвінавачаныя) у здзяйсненні злачынства альбо асуджаныя за здзяйсненне злачынства;
- асобы, якія знаходзяцца на прафілактычных уліках у органах унутраных спраў, асобы, у дачыненні да якіх ужытыя прымусовыя меры бяспекі і лячэння, прадугледжаныя Крымінальным кодэксам Рэспублікі Беларусь, а таксама асобы, што здзейснілі адміністрацыйныя правапарушэнні, за якія прадугледжаная адказнасць у выглядзе адміністрацыйнага арышту;
- замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія падлягаюць дэпартацыі або высылцы з Рэспублікі Беларусь;
- замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія прыбылі ў Рэспубліку Беларусь і звярнуліся з хадайніцтвам аб наданні статусу бежанца, дадатковай абароны або прытулку, альбо якія маюць часовую абарону, а таксама звярнуліся за атрыманнем дазволу на пастаяннае пражыванне ў Рэспубліцы Беларусь, за выключэннем непаўнагадовых, якія не дасягнулі 14-гадовага ўзросту, і людзей, якія дасягнулі 60-гадовага ўзросту;
- ваеннаабавязаныя.

**— Мяне затрымалі і знялі адбіткі пальцаў, але я не здзяйсняў ніякага адміністрацыйнага правапарушэння. Ці законна гэта?**

— Факт здзяйснення адміністрацыйнага правапарушэння павінен устанавіць суд. У выпадку рашэння суда аб прыцягненні да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе арышту, у вас маюць права адбіраць адбіткі пальцаў.

Праводзіць жа дактыласкапічную рэгістрацыю прымусова ад моманту затрымання да дастаўлення ў суд — незаконна.

Калі ж вам «прапанавалі» здаць адбіткі, паабяцаўшы больш хуткае вызваленне ці нешта яшчэ, а вы пагадзіліся — гэта можа расцэньвацца як добраахвотная дактыласкапія.

**— Што будзе, калі я адмоўлюся ад дактыласкапіі?**

— Вас могуць прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці за непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў (арт. 23.4 КаАП).

Аднак, ключавымі момантамі тут будуць — ці трапляеце вы ў катэгорыю асобаў, якія абавязаны здаць адбіткі ў гэты час, і ці з'яўляецца патрабаванне супрацоўніка міліцыі «законным».

**— Ці могуць гвалтоўна правесці працэдуру дактыласкапіі?**

— Адзін з прынцыпаў аб дзяржаўнай дактыласкапічнай рэгістрацыі абвяшчае, што яе правядзенне не павінна прадстаўляць небяспеку для здароўя чалавека, зневажаць яго гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю. Відавочна, беспадстаўнае ўжыванне сілы для адбору адбіткаў будзе парушаць гэты прынцып.

Тым не менш, калі прымяненне сілы законна і абгрунтавана, а таксама калі негвалтоўнымі спосабамі спыненне злачынстваў і адміністрацыйных правапарушэнняў зрабіць немагчыма, супрацоўнікі міліцыі могуць яе ўжываць.

**— Што рабіць, калі адбіткі пальцаў усё ж такі ўзялі без належных на тое падстаў?**

— Вы можаце напісаць скаргу на дзеянні супрацоўнікаў міліцыі начальніку РУУС, у Следчы камітэт, Пракуратуру і ў суд.

Калі ў вас узялі адбіткі пальцаў і адпусцілі без складання пратаколу аб адміністрацыйным правапарушэнні, вы можаце звярнуцца з пісьмовай заявай аб знішчэнні дактыласкапічнай інфармацыі ў орган унутраных спраў па месцы жыхарства. Пра знішчэнне такой інфармацыі орган унутраных спраў паведамляе заяўніку ў тэрмін не пазней за 30 сутак з дня падачы заявы.

**Паводле ПЦ «Вясна»**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Мэты і задачы

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Адна з найбольшых хібаў не толькі нашай улады, але і чалавека ўвогуле — гэта няўменне вучыцца на чужых памылках. Падавалася б, можна выкарыстаць фразу: «Гэта мы ўжо праходзілі». Але, нягледзячы на тое, што праходзілі, — наступаем на тыя ж граблі.**



Фота www.cosmo.ru

Праект паправак у закон аб сродках масавай інфармацыі ўзрушыў, аказваецца, не толькі журналістаў. У шоку апынуліся і дзяржаўныя тэлеканалы. Справа ў тым, што папраўкі прадугледжваюць «забяспечыць у штотыднёвым вяшчанні... аб'ём тэлеперадач беларускай (нацыянальнай) вытворчасці не менш за 30 працэнтаў».

Калі гэтыя папраўкі будуць прынятыя, яны закрануць у першую чаргу тых, хто працуе на базе замежных платформаў. А такіх у нашай краіне большасць. Найбуйнейшыя з іх — НТВ–Беларусь, АНТ, Расія–Беларусь, СТВ, ТНТ–International. З аднаго боку, добра: «бандыцкае» НТВ з абразлівымі антыбеларускімі перадачамі і хамскімі ток-шоў ужо раз'юшвае. Але ёсць і іншае.

Дзе нашы тэлеканалы будуць браць беларускі кантэнт? Прычым, кантэнт якасны, такі, каб людзі яго глядзелі? Як піша Marketing.by, даследаванні аўдыторыі паказваюць, што паспяхова канкураваць з тымі ж расійскімі праграмамі сёння могуць толькі беларускія інфармацыйныя праграмы, а таксама невялікая колькасць праграм іншых жанраў. Асобная праблема — вельмі малая колькасць паспяховых айчынных забаўляльных праграм. Хто будзе вырабляць канкурэнтаздольны прадукт, ці не будзе ён значна даражэй за замежны?

Калі адбудзецца гвалтоўнае запаўненне эфіру «чымсьці» айчынным, гэта будзе менавіта «штосьці». У выніку, паводле падлікаў адмыслоўцаў, рэкламныя бюджэты тэлеканалаў могуць упасці на 30%, — а гэта каля 10–12 мільёнаў долараў.

Канешне, можна спадзявацца, што нашы тэлевізійшчыкі ў такіх варунках проста вымушаныя будуць ствараць нешта добрае і цікавае для гледача. Але ёсць адно «але». Памятаеце, некалі ўзнікла квота на «беларускіх выканаўцаў на радыё»? Спачатку яе паставілі ў памеры 75% — і высветлілася, што ў краіне папросту не набралася столькі айчынных выканаўцаў. Адзінае, у чым была карысць гэтага рашэння, — нашыя радыйшчыкі вывучылі генеалогію ўсіх сусветна вядомых музыкаў, спрабуючы знайсці ў іх беларускія карані.

Потым пачаліся размовы, каб знізіць гэтую квоту да 50%. У выніку ў 2017 годзе Мінінфармацыі ўвогуле заявіла, што «дзеючае заканадаўства не ўтрымлівае нормаў аб абавязковай квоце на айчынную музыку ў радыёэфіры».

Падаецца, з «кватаваннем» беларускіх тэлеперадачаў адбудзецца тое ж самае.

Аналагічная навіна прыйшла з іняк не звязанага з тэлебачаннем аўтамабільнага рынку. Галоўны аўтабрэнд Беларусі — Geely — стаў аўтсайдэрам па продажах у першым квартале 2018-га. Гэта вынікае са статыстыкі, якую прыводзіць партал auto.tut.by.

Увогуле, беларускія аўтадылеры за квартал паказалі нядрэнныя вынікі, прадаўшы 8590 новых аўтамабіляў. У параўнанні з вынікамі 2017-га, чацвёрка лідараў не змянілася. З вялікім адрывам лідзіруе Renault, далей ідуць Volkswagen, Lada, Nissan. На 5 месцы апынулася марка Kia, Skoda прапусціла наперад Hyundai і зрушылася на 7 месца. Падзенне продажаў у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года адбылося ў Peugeot, Chevrolet Niva і Toyota.

Geely за першы квартал гэтага года прадала ўсяго 170 аўтамабіляў. Што як бы намякае на невыканальнасць планавых продажаў у больш за 2 тысячы машын за год. Стартавы рывок не ўразіў.

Зрэшты, плануецца запуск праграмы льготнага крэдытавання (1,9% гадавых на 3 гады) для куплі Geely. Гэта, як лічаць на auto.tut.by, можа згуляць у справе продажаў станоўчую ролю. Але ці будзе гэтая «станоўчая роля» вырашальнай?

Я б на гэта не спадзяваўся, зважаючы на папярэдніка Geely — праект Samand. Што толькі ні рабілі, каб узняць продажы тых аўто! І крэдыты давалі, і чыноўнікаў на іх перасаджвалі, і нават пошліны на ўвоз машын з-за мяжы збіраліся падняць! Не дапамагло нічога — і пра той Samand проста забыліся.

Ніякімі адміністрацыйнымі захадамі нельга прымусіць чалавека слухаць ці глядзець тое, што ён не хоча. Ніякімі «плюшкамі» не прымусіш яго набыць тое, што ён лічыць смеццем, — да таго ж у крэдыт і ўтрая даражэй за нармальны аналаг. Праходзілі ж ужо па гэтых граблях, навошта паўтараць?

Урэшце, паўтараемся не толькі мы. Але гэта ўжо звязана з часовым перыядам распаўсюду інфармацыі. У аўторак Міжнародны валютны фонд апублікаваў прагноз для сусветнай эканомікі, у якім значна палепшыў прагнозныя параметры ключавых макрапаказчыкаў для Беларусі — ВУП і інфляцыі. У адпаведнасці з абноўленым прагнозам, прырост ВУП Беларусі ў 2018 годзе, па меркаванні МВФ, складзе 2,8% супраць 0,7%, якія прагназаваў МВФ у кастрычніцкім дакладзе. А прагноз па інфляцыі на 2018 год палепшаны з 7,5% да 6%.

Аднак, пакуль МВФ рыхтаваў сваю справаздачу, сітуацыя ў беларускай эканоміцы змянілася — і, на жаль, не ў лепшы бок. Нацбанк Беларусі канстатаваў у краіне «разгон інфляцыі». Адміністрацыйна рэгуляваныя цэны і тарыфы ў гадавым вымярэнні выраслі на 9,7% (9,4% месяцам раней). У сакавіку падаражэлі паслугі ЖКГ, паліва, паслугі вышэйшай адукацыі і праезд у цягніках рэгіянальнага паведамлення.

І нельга сказаць, што гэта было нечакана. Еўразійскі фонд стабілізацыі і развіцця, які да нас бліжэй за МВФ, і за крэдыт якога Беларусь рэалізуе праграму падтрымкі эканамічнай палітыкі і структурных пераўтварэнняў, яшчэ мінулай восенню папярэджваў пра рызыкі паскарэння інфляцыі. У прыватнасці, у кастрычніцкім паведамленні аб прадстаўленні пятага траншу крэдыту гаварылася аб утварэнні ў Беларусі залішняй грашовай прапановы і магчымым паскарэнні інфляцыі.

Зараз у ЕФСР звярнулі ўвагу на тое, што рост цэнаў у Беларусі пачаў паскарацца ў лютым. Гадавая інфляцыя, якая складала 4,5% у студзені 2018 года, у лютым паскорылася да 4,9%, а да сакавіка — да 5,4%.

ЕСФР проста бліжэй да Беларусі, і таму больш аператыўна рэагуе на нашы закідоны кшталту 100-працэнтнай аплаты камунальных паслугаў і «заробку ўсім па 500». І таму заўважае, што тых 6% інфляцыі, якія нам прарочыць МВФ за год, мы амаль дасягнулі ў сакавіку.

Ну і пра расійскі рубель, які нам таксама крышачку падмачыў сітуацыю, мы пісалі. А таму прагноз МВФ наконт інфляцыі ў 6 працэнтаў намі будзе выкананы і перавыканаць. Што аптымізму, канешне, не дадае.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Зянон Пазняк

**Самы вядомы беларускі палітэмігрант, старшыня Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі БНФ выказаўся пра ініцыятыву перайменавання «Дня Волі» ў «Дзень Беларусі».**

На пачатку красавіка адзін з арганізатараў святкавання 100-годдзя БНР Павал Белавус апублікаваў новую канцэпцыю святкавання, у якой назву «Дзень Волі» ён прапанаваў замяніць на «Дзень Беларусі».

Пазняк назваў гэта поўнай нечаканасцю. Ён лічыць, што традыцыя, якая склалася гістарычна, ёсць «сама па сабе нацыянальная культурная каштоўнасць». «Яна не адмяняецца. Падмену мэтанакіравана рабілі каланізатары і бальшавікі, зыходзячы з палітычных мэтаў вынішчэння культуры. Па аналагічнай схеме, напрыклад, антыбеларускі рэжым сцвердзіў свой міфічны «дзень незалежнасці» 3 ліпеня, калі Мінск быў захоплены «савецкай арміяй». Зрэшты, такія заявы тлумачацца, хутчэй за ўсё, палітычнай нявопытнасцю заяўніка і добрымі намерамі (якія маглі быць памылковымі)», — напісаў Зянон Станіслававіч.

Мы прызвычаіліся, што Пазняк падобныя ініцыятывы абвяшчае «змовай маскальскага КДБ». А тут нечакана — «палітычная нявопытнасць і добрыя намеры». Больш за тое, паводле палітыка, сама ідэя мець у беларускім нацыянальным жыцці свята «Дзень Беларусі» — добрая, толькі звязаць яго, на думку Пазьняка, варта «з працоўным календаром, які яднае працавітых».

## Аляксандр Кныровіч

**У Мінску пачаўся судовы працэс над бізнесоўцам і блогерам. Пасяджэнне праходзіць у судзе Фрунзенскага раёна.**



44-гадовы Кныровіч з'яўляецца сузаснавальнікам групы кампаній «Сармат-СТІ». Ён актыўна ўдзельнічаў у працы супольнасці бізнес-анёлаў і венчурных інвестараў «БАВІН», курыраваў праект «Мой бізнес» на канале АНТ, падтрымліваў стартапы.

Бізнесмен публічна не згаджаўся з пазіцыяй беларускіх уладаў па цэлым шэрагу пунктаў. Увосень 2016 года ён скардзіўся, што дзяржава пакінула малы і сярэдні бізнес сам-насам са сваімі праблемамі. У якасці прыкладу ён прыводзіў сітуацыю ў будаўнічай сферы: дзяржаўныя трэсты не вярталі грошы прадпрымальнікам. «Сёння ў мяне асабіста завіслі велізарныя грошы ў дзяржтрэстах. Калі яны вернуцца, не ведаю. Дзяржава, як уласнік аб'ектаў, адказнасці за іх не нясе. Па адным з прадпрыемстваў запазычанасць за пастаўленую яшчэ ў 2015 годзе прадукцыю — 1,5 мільёна долараў. Прадпрыемства працуе ў сістэме ЖКГ», — казаў тады Кныровіч.

Кныровіч вёў блог і перыядычна публікаваў калонкі на сайце kyky.org. У 2015 годзе Мініфармацыі абмежавала доступ да рэсурсу пасля публікацыі, у якой бізнесовец раскрытыкаваў улады за стаўленне да святкавання 70-годдзя Перамогі.

Кныровіч быў затрыманы супрацоўнікамі КДБ 25 студзеня 2017 года. Яго вінавацяць у хабарніцтве і няўплаце падаткаў. Ён правёў у СІЗА КДБ больш за год.

## Максім Мірны

**Знакаміты беларускі тэнісіст выйграў свой 52-гі парны тытул у прафесійнай кар'еры.**



Разам з аўстрыйцам Філіпам Освальдам (№49 у парным рэйтынгу ATP) Максім Мірны (№39) абыграў нямецка-харвацкі тандэм Андрэ Бегеман (№87) і Антоніа Санчыч (№69) у фінале турніру ў амерыканскім Х'юстане з прызавым фондам 557 тысяч долараў.

Як адзначае афіцыйны сайт БТФ, у Мірнага і Освальда гэта трэці сумесны тытул (раней былі перамогі ў Маскве і Нью-Ёрку).

«Я набліжаюся да завяршэння сваёй кар'еры, але ўсё ж спадзяюся прыехаць сюды яшчэ раз у наступным годзе. Гэта мой першы тытул у Х'юстане. Хачу падзякаваць сваму партнёру Філіпу за тое, што ён далучыўся да мяне пасля матчаў Кубка Дэвіса ў Расіі на мінулым тыдні. Ён спраўляўся і са зменай гадзінных паясоў, і з рознымі ўмовамі надвор'я. Таксама я хачу падзякаваць сваёй дачцэ, менеджару і трэнеру Пятру. Яна зрабіла выдатную працу на гэтым тыдні», — сказаў Мірны ў пасляматчавай размове.



# Эдуард Пальчыс: «Усё хворае трэба выразаць»

Фота www.svaboda.org

Алесь КІРКЕВІЧ

**Блогер, колішні палітвязень і адзін з маладых менеджараў, якія займаліся арганізацыяй сёлетняга Дня Волі, дзеліцца думкамі пра апазіцыю, паходы на Бангалор і павучальную гісторыю БНР.**

Сёння Эдуард Пальчыс, стваральнік праекту 1863x.com, амаль не піша тэкстаў для свайго блогу: Дзень Волі забраў зашмат часу, таму пасаду рэдактара перахапіла жонка. Са словаў Пальчыса, ён з радасцю перадаў бы паролі маладым і здольным, больш прасунутым і крэатыўным. Але дзе яны? І адкуль могуць узяцца, каб змяніць атмасферу ў краіне? Пра гэта ды шмат што іншае Эдуард распавядае чытачам «Новага Часу».

## «За дзень рабілася тое, на што патрэбны месяц»

***— Сёння, калі ўсё скончылася, як ты бачыш вынікі Дня Волі?***

— Цяжка ацаніць, бо няма з чым параўнаць. Такое рабілася ўпершыню. Канцэртныя арганізатары са стажам, да якіх мы звярнуліся пры падрыхтоўцы, наогул сказалі, што мы з глузду з'ехалі, калі за такое ўзяліся… Часу ж вельмі мала было: за дзень рабілася тое, што звычайна робіцца за месяц. Вельмі жорсткі і напружаны графік: 23 дні, за якія трэба было і выканаўцаў запрасіць, і грошы знайсці, і дамовіцца з усімі…

Гэта цуд, што ўсё атрымалася. Цуд і вынік працы вялікай колькасці энтузіястаў: напрыклад, прыходзілі рэкламшчыкі і прапаноўвалі паслугі па раскрутцы Дня Волі — бясплатна. СМІ вельмі дапамаглі. Для арганізатараў гэта быў шалёны час. Павел Белавус жонку з дзіцём адправіў фактычна «ў высылку». Антон Матолька таксама.

***— А твая жонка?***

— Вікторыя два месяцы займалася праектам 1863x.com, бо я на тое аб'ектыўна не меў часу. Яна і зараз застаецца рэдактарам блогу. Я буду яшчэ вяртацца да гэтай працы ды ўзгадваць, як артыкулы пішуцца (смяецца).

## «Брыдзеш сабе на Бангалор — ты ж патрыёт!»

***— Ці стаў Дзень Волі пэўным рубіконам у фармаце вулічных акцыяў?***

— Трэба заўжды звяртаць увагу на момант. У 1996-м Чарнобыльскі шлях з перакуленымі машынамі, магчыма, быў апраўданы, не ведаю. У розныя часы ўсё па-рознаму. А 25 сакавіка мае быць нацыянальным святам, варта было гэта зразумець яшчэ ў 2000-х. Не зразумелі, таму ў выніку і атрымалі шэсці па 1000–1500 удзельнікаў, якія цягнуліся на Бангалор… Я сам на такія хадзіў разоў пяць, ад 2008-га…

Першы раз — ваў! — сцягі над горадам! Другі — ужо як абавязак: ты ж патрыёт — маеш быць. Брыдзеш сабе, да плошчы Бангалор не даходзіш, зварочваеш на прыпынак 53-га… «Затое, я патрыёт!» Гэта ператварылася ў бессэнсоўны рытуал. І гэта было значна большым гета, чым рамкі і загародкі, пра якія зараз кажуць некаторыя. Калі арыентуешся на запыт і настрой людзей, атрымліваецца зусім іншы вынік.

***— Чаму 25 сакавіка, а не Чарнобыльскі шлях ці Дзяды?***

— Калі б мы ўпусцілі БНР'100 — гэта быў бы вердыкт пакаленню. Яшчэ ў 2017-м мы планавалі правесці 25-га па сцэнары святочнага шэсця. Я пра гэта задумаўся калі выйшаў з турмы, у снежні 2016-га. Мы падрыхтавалі канцэпцыю «БНР'99», меліся заявіць на гэта 21 лютага, але 17-га пачалася тэма з недармаедамі, а праз пару дзён — Курапаты… Была ўжо іншая атмасфера і павестка дня. Каб мы тое рабілі ў тых умовах — нас бы наўпрост не зразумелі. Мы б і самі сябе не зразумелі. Пасля была дапамога палітвязням, BY_Help, а калі з усім гэтым разгрэбліся, ужо лета надышло… Давялося адкласці на год.

Насамрэч, мы вельмі дрэнна ведаем гісторыю БНР, хоць праз Дні Волі прайшлі дзясяткі тысяч людзей. Тое, што пасля пачалі хадзіць па 1000 чалавек — гэта ўжо вынік працы апазіцыі, якая не змагла правільна падаць і прадаць людзям ідэю… Для іх гэта былі акцыі «супраць Лукі», а што такое ІІІ Устаўная грамата? Пра што гэта? Задай кожнаму традыцыйнаму ўдзельніку пару пытанняў з гісторыі БНР — і ён пачне «сыпацца». Калі я сам пачаў чытаць пра БНР, то зразумеў, наколькі гэта неймаверная і павучальная гісторыя для ўсіх нас. Так я зразумеў, што 100-годдзе мае быць менавіта святам, каб людзі звярталіся да гісторыі і рабілі высновы.

## «Айцоў БНР маглі зачысціць бальшавікі ці палякі»

***— А ў чым павучальнасць і актуальнасць?***

— Гэта гісторыя таго, як адчыняецца акно магчымасцяў, а мы не гатовыя. Ёсць магчымасці — няма кадраў, падрыхтоўкі і разумення моманту. Выпадак таго ж Рамана Скірмунта, які мог 100 гадоў таму падцягнуць да праекту БНР фінансавыя колы, а яго не падтрымалі, бо ў кіраўніцтве апынуліся сацыялісты, якія мыслілі класавымі катэгорыямі. Чаму прайграла БНР? Бо не мела войска. А чаму не мела? Бо войска — гэта грошы на яго ўтрыманне. Вось і ўсё. Тэарэтычна, Скірмунт тады мог стаць правым дыктатарам. І ты разумееш, што, магчыма, варта было на нейкі час мець такога дыктатара — як у суседніх краінах, — якія і дазволілі гэтым краінам паўстаць і захавацца.

А зараз пра 1990-я гады. Вяртаемся да гісторыі з памятнай шыльдай БНР, якую мы спрабуем павесіць на Валадарскага. Яна ж была гатовая ў 1993 годзе! Тады і парламент быў наш, і Пагоня на Доме Ураду… Не наўпрост не павесілі: забыліся, нейкую паперку не падпісалі, палічылі не важным. Гэта ж сведчанне: калі ўпусцілі такую дробязь, то колькі не дарабілі важных рэчаў? І калі зноўку з'явіцца акно магчымасцяў, ёсць вялікая верагоднасць, што ў нас не будзе хапаць кадраў, рук, каб усё паспець і зрабіць якасна, каб вывесці Беларусь на новы ўзровень. Гісторыя БНР — менавіта пра гэта ўсё.

***— БНР — гэта павучальная гісторыя, але ці трэба ёй ганарыцца?***

— У чым подзвіг БНР? Сярод хаосу і вайны, паміж молатам і кавадлам, зрабіць нават тое, што зрабілі айцы-заснавальнікі — гэта ўжо цуд. За тое мы ім і ўдзячныя. Сёння кажуць, што гэта была ўсяго толькі дэкларацыя, але тая дэкларацыя не роўня сённяшнім, якія прымаюць партыі ды аргкамітэты. Сёння за гэта не расстрэльваюць, а ў той ваенны час урадаўцаў БНР маглі папросту «зачысціць» палякі ці бальшавікі, не чакаючы 1937-га года. Хто б перашкодзіў? «Human Rights Watch» і праваабаронцаў яшчэ не было.

## «Забіць на апазіцыю»

***— Айцы БНР не змаглі дамовіцца тады з тым жа Балаховічам ці Скірмунтам, а зараз дамовіцца нам між сабой — магчыма?***

— А з кім аб'ядноўвацца? Што гэтыя людзі, якія кажуць пра «канцэртную апазіцыю» і «падтанцоўку» з сябе ўяўляюць? Калі глядзіш на бацькоў БНР, бачыш, што гэта былі асобы, кожны са сваім талентам. А што з сябе ўяўляе сучасная апазіцыя? Як гэта карэктна сказаць, каб не пакрыўдзіць… Аб'ядноўвацца добра, калі ёсць здаровыя клеткі ды органы, якія збіраюцца ў здаровы арганізм. А зараз гэта плён доўгіх працэсаў гніення і дэградацыі, таму ўсё хворае трэба выразаць. Паводле біблейнага прынцыпу: дрэва, што не дае плоду, ссякаецца і кідаецца ў агонь.

Назаві мне пяць паспяховых «кейсаў» тых жа лідараў БНК? Пра Пазняка можна назваць з ходу, а тут? Можна спрачацца пра 1990-я, хто што зрабіў, хто чым кіраваў… але мы жывем у 2018 годзе! Таму мне здаецца, што трэба аддзяляцца і гнуць сваю лінію. Наогул, «забіць на апазіцыю». Нават словам такім не карыстацца. Нам патрэбная грамадзянская супольнасць. І з яе ўжо народзіцца новая апазіцыя — здаровая, сучасная, якая б рэалізоўвала тыя каштоўнасці, якія старая апазіцыя адно дэкларавала.

***— А ў нас няма грамадзянскай супольнасці?***

— Атрымліваецца, што не. Тое, што зрабілі мы на 25-га сакавіка, нашмат лепш зрабілі б іншыя людзі, якіх сёння ў Мінску багата — менеджары, арганізатары, піяршчыкі. Але гэтыя маладыя таленавітыя людзі сёння настолькі далёкія ад палітыкі, што пра гэта нават не думаюць. І гэта дрэнна. А блізкія да палітыкі акурат тыя людзі, якія на свой жа мітынг не кожны раз мегафон данясуць. Што пра іх размаўляць? Той, хто ў палітыцы не патрэбны — лезе ў кожную дзірку. А той, хто дзіка патрэбны — трымаецца здалёк. Хоць ты ласо кідай і зацягвай…

## «З радасцю здам паролі і сыду»

***— А якая матывацыя ў маладога паспяховага чалавека ва ўсё гэта лезці?***

— Задача акурат у тым, каб ім гэта было цікава і важна. І сёлета на 25-га прыйшло багата новых людзей, якія ўпершыню былі на нечым падобным. Сярод іх, упэўнены, былі і тыя, пра каго мы зараз гаворым: таленавітыя паспяховыя людзі новая фармацыі. Магчыма, калі мы штогод ім будзем тлумачыць гісторыю і важнасць БНР, для іх і Беларусь стане больш цікавай і каштоўнай. Хай спачатку прыйдуць як гледачы, а пасля — далучаюцца.

Ёсць жа і альтэрнатыўны досвед: 19 снежня 2010-га альбо мінулы Дзень Волі 2017-га. Шмат новых і свежых людзей сабралася дзякуючы вялікай піяр-кампаніі. Разгон, гвалт… Частка спужалася, частка — расчаравалася. Апошнія пасля транслююць: «Мы не прабачым!» альбо «Зараз мае быць рэвалюцыя!» Але ўсе гэтыя пафасныя фразы і эмоцыі пасля зліваюцца ў нікуды. Ну як змагацца і помсціць айцішніку, яшчэ і сямейнаму? Колы некаму па начах рэзаць?..

***— Ну, не ведаю… Даць Статкевічу грошы на рэвалюцыю?***

— Не, гэта разумныя людзі, і яны ўмеюць лічыць грошы. Ён лепш у біткоін укладзецца. Таму ўсё зліваецца. Людзі атрымліваюць па галаве — бачаць вынік — пасля не ведаюць, што рабіць, і робяцца ціхімі патрыётамі: ходзяць на канцэрты Міхалка ці налепкі з Пагоняй на пазадарожнікі свае лепяць. Ну і жывуць сямейным жыццём. Бо ўсё астатняе не мае сэнсу, «дзень сурка».

А пасля з'яўляецца наша гісторыя, свята з морам людзей. І гэтыя людзі прыходзяць, звяртаюцца. І з імі хочацца аб'ядноўвацца. Мне хочацца аб'ядноўвацца з адэкватнымі СМІ, з бізнесоўцамі, з таленавітымі людзьмі. З імі хочацца нешта рабіць разам. Калі прыйдзе пара сотняў такіх маладых менеджараў, я з радасцю ім здам усе паролі і сыду з гэтага поля наогул. Пакуль жа, на жаль, няма каму здаваць.

***— Што зараз самае важнае? Чаго найбольш не хапае Беларусі для зменаў?***

— Кадры, новыя людзі і свежая кроў. Кадры вырашаюць усё!

**Ад рэдактара:**

*Можна разважаць пра старое і новае пакаленне апазіцыі і кідаць камяні то ў адных, то ў другіх. Можна шмат спрачацца, якім павінен быў быць Дзень Волі, можна рэфлексаваць і абвінавачваць адзін аднаго. Бясспрэчна, на мой погляд, толькі тое, што без тых дваццаці з лішкам гадоў дзейнасці «старой» апазіцыі не было б не тое, што канцэрту, а нават і дазволу на пікет да 100-годдзя БНР (калі б наогул было каму ўзгадаць пра БНР). Гэтак жа, як бясспрэчна тое, што новаму пакаленню патрэбны новыя лідары і новыя фарматы акцый.*

# Што перашкаджае беларускамоўнай адукацыі ў Магілёве?

«Радыё СВАБОДА»

**У Магілёве абмеркавалі стан беларускамоўнай адукацыі. Таварыства беларускай мовы арганізавала «круглы стол» з удзелам бацькоў дзяцей, якія вучацца па-беларуску, чыноўнікаў, прадстаўнікоў адміністрацыі школ ды грамадскіх актывістаў.**

Першае абмеркаванне стану навучання па-беларуску адбылося ў 2015 годзе. Тады больш гаварылі, як яго ўратаваць. На той момант на беларускай мове вучылася толькі адно дзіця — Ялінка Салаўёва.

Цяпер у Магілёве беларускамоўнае школьніцтва трымаецца на сямі вучнях. Чацвёра дзяўчынак вучацца ў 34-й школе, двое вучняў — у 1-й школе. У гэтай жа школе давучваецца ў адзіноце і Ялінка Салаўёва.

Летась на «круглым сталe» дапускалася, што ў 2018-м у 45-й школе набяруць паўнавартасны беларускі клас. Як высветлілася, чаканне было завышаным. Ці з'явіцца яшчэ адзін беларускі клас? Чыноўнікі запэўнілі, што па адной беларускамоўнай групе набяруць у двух садках.

Дык што ж перашкаджае беларускамоўнай адукацыі? Падчас абмеркавання вылучылі шэсць прычын.

### На беларускае навучанне запыту няма

У 45-й школе няма магчымасцяў адкрыць беларускі клас, сказала намесніца дырэктара Марына Васількова. Школа перапоўненая. У класах па трыццаць вучняў. Акрамя таго, падкрэсліла прадстаўніца адміністрацыі, навучальная ўстанова працуе зыходзячы з запытаў бацькоў на пэўныя спецыялізацыі. Запыту на беларускамоўнае навучанне няма. З 208 апытаных бацькоў ніводзін не выказаў жадання вучыць дзіця па-беларуску, адзначыла яна.

«Калі бацькі выкажуць жаданне адкрыць беларускі клас, то ён мусіць быць не меней чым з 20 вучнямі. Калі ён будзе меней, то мы будзем ушчамляць дзяцей з класаў з большай колькасцю. Будзем раіць такім бацькам звяртацца ў школы, якія маюць магчымасці адкрываць класы з беларускай мовай», — патлумачыла настаўніца.

Яна дала зразумець, што бацькі маюць зрабіць выбар: вучыць дзіця на беларускай мове альбо адправіць яго ў школу па месцы жыхарства.

### Не хапае настаўнікаў, здольных вучыць на беларускай мове

Ва ўніверсітэтах студэнтаў не вучаць працаваць у школах на дзвюх мовах. Веданне выпускнікамі беларускай мовы знаходзіцца не на належным узроўні. У школе вучаць беларускай мове як замежнай. Праблема з беларускамоўнымі кадрамі ўласцівая і для садкоў.

«Шукаем курсы для настаўнікаў, якія будуць выкладаць прадметы па-беларуску ў пятым класе», — сказаў дырэктар 34-й школы Ігар Якіменка.

«Курсаў перападрыхтоўкі педагогаў на беларускай мове няма», — канстатаваў выкладчык універсітэту імя Куляшова Аляксандр Агееў.

### На гарадскую школу праблемна замовіць камплект беларускіх падручнікаў

«Даваўлося падручнікі збіраць па Магілёўскім раёне, па сябрах і знаёмых», — сказаў Ігар Якіменка.

Паводле яго меркавання, сістэма забеспячэння беларускімі падручнікамі для гарадскіх школаў не адладжаная.

Настаўніца беларускага класу гэтай школы Лідзія Ціханоўская дадала: «Не хапае метадычнай літаратуры. Цяжка адшукаць наглядныя матэрыялы для класа».

### Хочам навучання па-беларуску, але супраць аддаваць дзіця ў малакамплектны клас

Няма школы з беларускім класам паблізу з месцам пражывання. Клас мусіць быць цалкам укамплектаваны, і дзіця мае камунікаваць з аднакласнікамі.

«Не хочам, каб дзіця знаходзілася ў «адукацыйным гета», каб вучылася без калектыву», — было агучана падчас абмеркавання.



Фота www.svaboda.org

### Патрэбна дзяржаўнае стымуляванне беларускамоўных настаўнікаў

Калі мы гаворым пра адраджэнне і папулярызацыю беларускамоўнай адукацыі, то без адміністрацыйнага рэсурсу гэта зрабіць немагчыма.

«Патрэбнае дзяржаўнае стымуляванне. Настаўнікі, якія працуюць на беларускай мове, мусяць мець прыбаўку да заробкаў», — сказаў удзельнік дыскусіі Ігар Барысаў, які дамагаецца для сваёй дачкі адкрыцця беларускамоўнай групы ў садку.

### Хочаце беларускую групу ў дзіцячым садку — шукайце ахвотных

Базавымі для беларускай мовы вызначаныя садкі № 79 і 93 у Ленінскім і Кастрычніцкім раёне гораду. Па словах намесніцы старшыні гарвыканкаму Алы Галушкі, у гэтых дашкольных установах падрыхтаваны персанал, і яны метадычна забяспечаныя.

Ва ўсіх садках гораду, сказала чыноўніца, адкрыць беларускамоўныя групы няма магчымасці, бо не набіраюцца групы. Іх колькасць мае быць не меней за 20 чалавек.

Калі бацькі набяруць групу ў іншы садок, то, дапусціла чыноўніца, яе адкрыюць. «Наша задача — стварыць умовы», — падкрэсліла яна.

Паводле настаўніка Міхася Булавацкага, у 1993–1994 навучальным годзе ў Магілёве па-беларуску вучыліся 6,6% школьнікаў. Напачатку 2000-х гадоў беларускіх класаў у горадзе не засталося зусім. Пасля дзесяцігоддзя занепаду ў 2010 годзе сіламі грамадскасці гарвыканкам адкрыў беларускі клас. У яго прыйшла толькі Ялінка Салаўёва.

У 2007 годзе пасля працяглага перапынку ў магілёўскім садку № 81 сфармавалі групу з беларускай мовай выхавання, у якую хадзілі пяцёра дзетак. Адкрыцця дамагліся бацькі. Праіснавала яна да 2009 года, пакуль яе гадаванцы не дасягнулі школьнага веку. Больш набору ў беларускамоўную групу не было.

# Чорны чацвер дзевяноста пятага

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**На фоне ўсплёску дыскусій наконт чарговага канстытуцыйнага плебісцыту варта нагадаць пра адзін з самых сумных дзён у гісторыі незалежнай Беларусі — 13 красавіка 1995 года. У гэты дзень Вярхоўны Савет 12 склікання зацвердзіў пастанову № 3728-XII «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму па пытаннях, прапанаваных прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, і захадах па яго забеспячэнні».**

Паводле пастановы, рэферэндум павінен быў адбыцца 14 мая 1995 года. На ўсенароднае галасаванне былі вынесеныя чатыры пытанні:

1) Ці згодныя Вы з наданнем рускай мове роўнага статусу з беларускай?
2) Ці падтрымліваеце Вы прапанову аб устанаўленні новых Дзяржаўнага сцяга і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь?
3) Ці падтрымліваеце Вы дзеянні прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, накіраваныя на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй?
4) Ці згодныя Вы з неабходнасцю ўнясення змяненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць магчымасць датэрміновага спынення паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у выпадках сістэматычнага або грубага парушэння Канстытуцыі?

У пастанове рабілася агаворка, што першыя тры пытанні з'яўляюцца абавязковымі, а чацвёртае носіць рэкамендацыйны характар.

Як аднаму чалавеку, хай і на вышэйшай дзяржаўнай пасадзе, удалося перамагчы парламент амаль з двухсот дэпутатаў?

### Супрацьстаянне

У сваім супрацьстаянні з Вярхоўным Саветам 12 склікання, рэй у якім вяла парламенцкая апазіцыя БНФ, Лукашэнка ліхаманкава шукаў эфектыўныя сродкі для нейтралізацыі небяспечнага праціўніка і адначасова — для падвышэння свайго рэйтынгу. З моманту прыходу Лукашэнкі да ўлады паміж ім і дэпутацкім корпусам здарыліся некалькі прынцыповых сутычак, з якіх кіраўнік дзяржавы выходзіў нязменным пераможцам.

Сапраўдную паразу ад Лукашэнкі Вярхоўны Савет атрымаў 17 сакавіка 1995 года, калі кіраўнік краіны ўказам «Аб асобных парушэннях заканадаўства ў дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі» вызваліў з пасады галоўнага рэдактара парламенцкай «Народнай газеты» Іосіфа Сярэдзіча. 10 сакавіка 1995 года выданне апублікавала ліст да Лукашэнкі выкладчыцы Школы алімпійскага рэзерву Рэгіны Зімніцкай пад псеўданімам Здзіслаў Вальняровіч, накіраваны супраць агучанай яшчэ ў пачатку лютага 1995 года ініцыятывы правесці рэферэндум «о государственном флаге, гербе, языках и приватизации».

Улада ўгледзела ў тэксце Зімніцкай заклікі да гвалту і грамадскага супрацьстаяння, таму і прыняла, на яе думку, адпаведны рашэнні. 21 сакавіка 1995 года пры абмеркаванні пытання аб вызваленні Сярэдзіча Вярхоўны Савет не здолеў абараніць свайго рэдактара. Праекты пастаноў аб незаконным звальненні Сярэдзіча і аб незаконнасці ўказа ад 17 сакавіка 1995 года не набралі патрэбнай колькасці галасоў. Безвыніковым апынуўся і зварот групы дэпутатаў у Канстытуцыйны Суд 3 мая 1995 года. Апошні 14 чэрвеня прыпыніў разгляд справы, а пазней і ўвогуле не даў ніякага заключэння.

Нягледзячы на відавочныя перамогі, Лукашэнку непакоіў важны юрыдычны нюанс. Паводле Канстытуцыі 15 сакавіка 1994 года, кіраўнік краіны мог быць датэрмінова адпраўлены ў адстаўку, у тым ліку па прычыне парушэння ім Асноўнага закона. У той жа час прэзідэнт не меў права распускаць Вярхоўны Савет.

Таму Лукашэнка і вылучыў ідэю рэферэндуму, тым больш, што меўся адпаведны прыклад Расіі: 25 красавіка 1993 года большасць выбаршчыкаў падтрымала сацыяльна-эканамічную палітыку Ельцына і выказалася супраць датэрміновых прэзідэнцкіх выбараў.



**Знакамітае фота на памяць у апошні дзень сесіі 13 красавіка 1995 года. Разам з Лукашэнкам сфатаграфаваліся былы старшыня Вярхоўнага Савета Мікалай Дземянцей (злева ад прэзідэнта) і тагачасны кіраўнік парламента Мечыслаў Грыб. Былы старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч адмовіўся ад сумеснага з Лукашэнкам фота. Цікавы факт: у чэрвені 1990 года дэпутат Вярхоўнага Савета Аляксандр Лукашэнка пры абмеркаванні кандыдатуры Грыба на пасаду старшыні пастаяннай камісіі парламента па заканадаўстве казаў, што «преклоняется перед этим человеком». Аднак у кастрычніку 1995 года прэзідэнт Лукашэнка заявіў, што «Грыб развіваецца па спіралі і прасунуўся ад камуніста да нацыянал-радыкала».**

Перад тым, як афіцыйна ініцыяваць рэферэндум, Лукашэнка правёў своеасаблівую папярэднюю апрацоўку грамадскай думкі. 18 сакавіка 1995 года «Звязда» апублікавала зварот 74 дэпутатаў Вярхоўнага Савета да Лукашэнкі з патрабаваннем правесці рэферэндум па замене дзяржаўнай сімволікі і наданні рускай мове статусу дзяржаўнай (зварот складаўся з дзвюх калонак, кожная з якіх была на імя Лукашэнкі).

Цікава, што сярод падпісантаў фігураваў Яўген Бачароў, рускі па нацыянальнасці і былы начальнік Галоўнага ўпраўлення памежных войскаў пры Савеце Міністраў. Бачароў зарэкамендаваў сябе як востры крытык кіраўніка дзяржавы. 20 снежня 1994 года Бачароў заявіў, што ў передвыбарчай праграме Лукашэнкі, «ничего не было, за исключением популизма». Менавіта тады Бачароў, звяртаючыся да Лукашэнкі, літаральна прадрок трагічны лёс Ганчара, Захаранкі, Красоўскага і Завадскага: «Я не могу Вам обещать, что успокоюсь. Для того, чтобы я замолчал, нужно будет не только прослушивать мои телефоны, но подготовить и грамотно провести солидное спецмероприятие».

Зварот падпісалі і іншыя больш-менш вядомыя дэпутаты. Гэта старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі ў 1990–1991 гадах Мікалай Дземянцей, былы сакратар ЦК КПБ Аляксей Камай, кіраўнік дэпутацкай групы камуністаў Міхаіл Качан і іншыя.

21 сакавіка 1995 года, выступаючы перад дэпутатамі, Лукашэнка афіцыйна ўнёс прапанову аб рэферэндуме. Аднак уключэнне гэтага пытання ў парадак дня прайшло з пэўнымі цяжкасцямі. Калі пытанне было пастаўлена на галасаванне, яно набрала 147 галасоў пры кворуме ў 152 дэпутаты.

Узніклі вострыя дыскусіі. Прапрэзідэнцкія дэпутаты настойвалі на паўторным (пайменным) галасаванні, а апазіцыйныя — не. Адзін з апошніх — Віктар Какоўка — заявіў, што група парламентарыяў прапануе наступныя дадатковыя пытанні:

1) Ці згодны Вы з артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якая выкладзена ў наступнай рэдакцыі: «Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова. Рэспубліка Беларусь забяспечвае права свабоднага карыстання рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін»?
2) Ці згодны Вы з дзеючай сімволікай Рэспублікі Беларусь (бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня»)?
3) Ці задавальняе Вас выкананне прэзідэнтам Беларусі А.Р. Лукашэнкам ягонай перадвыбарчай праграмы ў галіне эканомікі, сацыяльнай абароны грамадзян і барацьбе з карупцыяй?

Ініцыятарам трох новых пытанняў, канешне, нерэальна было сабраць больш 450 тысяч подпісаў (рэферэндум мог быць прызначаны і пэўнай колькасцю грамадзян). Аднак у тагачаснай рэдакцыі Канстытуцыі Беларусі прысутнічала норма, згодна якой пытанне аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму магло быць разгледжана парламентам па ініцыятыве не менш як 70 дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Але і гэта не ўдалося: збор подпісаў за новыя пытанні быў заблакаваны паплечнікамі Лукашэнкі ў Вярхоўным Савеце.

Праект пастановы з прэзідэнцкімі пытаннямі аб наданні рускай мове статусу дзяржаўнай, аб

**21 сакавіка 1995 года Лукашэнка афіцыйна ўнёс у парламент прапанову аб рэферэндуме. Уключэнне гэтага пытання ў парадак дня прайшло з цяжкасцямі. Яно набрала 147 галасоў пры кворуме ў 152**








**Ілюстрацыя з газеты «Рэспубліка», красавік 1995 года**

замене дзяржаўнай сімволікі, эканамічнай інтэграцыі з Расіяй і аб праве кіраўніка дзяржавы распускаць парламент быў зацверджаны Вярхоўным Саветам 22 сакавіка 1995 года ў якасці асновы. Праўда, адбылося гэта з мінімальным перавесам. «За» прагаласавалі 159 дэпутатаў пры кворуме ў 152.


Так пачыналася знакамітая галадоўка. Злева направа: Сяргей Навумчык, Лявон Баршчэўскі, Мікалай Крыжаноўскі і Валянцін Голубеў. Крыніца: «Советская Белорусссия», красавік 1995 года

## 10 красавіка

Пасля двухтыднёвага перапынку Вярхоўны Савет аднавіў працу 10 красавіка 1995 года. Народны паэт Ніл Гілевіч, выступаючы раніцай у «Розным», зачытаў заяву 527 жыхароў Валожынскага раёна, якія выступілі супраць надання рускай мове статусу дзяржаўнай і супраць замены дзяржаўнай сімволікі. Прапрэзідэнцкія дэпутаты заявілі Гілевічу, што ліст жыхароў узнік пад ціскам.

Юрыдычную неправамернасць некаторых пытанняў, прапанаваных Лукашэнкам, даказваў старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па заканадаўстве Дзмітрый Булахаў. Калі Лукашэнка, казаў Булахаў, выйграе рэферэндум, дык па пытаннях статусу моваў і права кіраўніка дзяржавы распускаць парламент трэба ўносіць змены ў Канстытуцыю, аднак рабіць гэта было нельга ў апошнія шэсць месяцаў працы Вярхоўнага Савета. Таму, лічыў Булахаў, гэтыя пытанні трэба дэлегаваць Вярхоўнаму Савету новага, 13 склікання.

Што да першага і трэцяга пытанняў, то яны (на гэтым асабліва настойвала парламенцкая апазіцыя БНФ) уваходзілі ў супярэчнасць з законам аб рэферэндуме ад 13 мая 1991 года. У прыватнасці, артыкул 3 закона забараняў выносіць на рэферэндум пытанні, якія парушалі неад'емныя правы народа Беларусі на суверэнную нацыянальную дзяржаўнасць, дзяржаўныя гарантыі існавання беларускай нацыянальнай культуры і мовы. Таксама гэты артыкул забараняў выносіць на рэферэндум пытанні, датычныя выканання ўмоў міжнародных дамоваў.

Справядлівым заўвагам Лукашэнка супрацьстаўляў артыкул 3 Канстытуцыі, дзе народ абвяшчаўся адзінай крыніцай улады. Няма таго пытання, быў упэўнены Лукашэнка, які б, згодна артыкулу 3, не падлягаў бы юрысдыкцыі народа.

Дарэчы, у першапачатковым выглядзе пытанні кіраўніка дзяржавы выглядалі нелагічна. Напрыклад, першае пытанне гучала так: «Ці падтрымліваеце Вы дзяржаўны статус рускай і беларускай моваў?» У такой сітуацыі, казаў каардынатар парламенцкай апазіцыі БНФ Сяргей Навумчык, калі чалавек не жадае дзяржаўнага статусу рускай мовы, ён вымушаны адмовіцца і ад статусу мовы беларускай. Такую фармулёўку Сяргей Навумчык назваў «бытавым абсурдам».

У гэты ж дзень улада з мэтай запалохвання дэпутатаў вырашыла паказальна расправіцца з іх калегам — галоўным рэдактарам апазіцыйнай «Свабоды» Ігарам Герменчуком. Яшчэ 27 снежня 1994 года газета надрукавала сатырычную паэму «Лука Мудзішчаў — прэзідэнт», у якой аўтар пад імем Ведзьмака Лысагорскага назваў Лукашэнку галоўным русіфікатарам і антыбеларусам. Згодна з асабістым патрабаваннем Лукашэнкі, генеральны пракурор Васіль Шаладонаў распачаў адносна Герменчука крымінальную справу за абразу. Аднак Гермянчук быў дэпутатам, і Вярхоўны Савет стаў на яго абарону.

Галоўныя дыскусіі разгарэліся на вячэрнім пасяджэнні, калі выступаў кіраўнік дзяржавы. У характэрнай для яго дэмагагічнай манеры Лукашэнка абвінаваціў дэпутацкі корпус у тым, што ён наўмысна зацягвае пытанне з рэферэндумам. Кіраўнік краіны заявіў, што гэта робіцца спецыяльна ў мэтах перадвыбарчай барацьбы, і патрабаваў ад дэпутатаў «решить вопрос уже сегодня».

Дэпутаты («за» 157 пры кворуме ў 152) зацвердзілі пункт першы праекта пастановы, якая была прынята за аснову 22 сакавіка. Згодна першаму пункту, рэферэндум быў павінен адбыцца 14 мая 1995 года (у гэты дзень павінны былі прайсці выбары ў Вярхоўны Савет Беларусі 13 склікання).

## 11 красавіка

Дзень пачаўся з таго, што дэпутат і паэт Анатоль Вярцінскі зачытаў зварот Саюза пісьменнікаў, накіраваны супраць рэферэндуму: можна, маўляў, толькі пашкадаваць, што Лукашэнка, палітык новай генерацыі, харызматычны лідар, пайшоў услед за экстрэмісцкімі сіламі.

Зянон Пазьняк ад імя парламенцкай апазіцыі БНФ, назваўшы рэферэндум грамадзянскім расколам, абвясціў галадоўку. Паступова каля трыбуны размясціліся 17 прадстаўнікоў парламенцкай апазіцыі БНФ і БСДГ. Неўзабаве да іх далучыліся Алег Трусаў і Сяргей Антончык. Калі першы матываваў свой учынак незаконным вызваленнем з пасады Сярэдзіча, то другі — наяўнасцю карупцыі ў краіне на чале з кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта Леанідам Сініцыным і кіраўніком Упраўлення справамі прэзідэнта Іванам Ціцянковым.


Міністр абароны Антоль Кастэнка, аблакаціўшыся на дэпутацкае месца, імкнуўся зрабіць добрую міну пры дрэннай гульні. Справа налева: Сяргей Навумчык і Уладзімір Заблоцкі. Крыніца: «Советская Белорусссия», красавік 1995 года

Галадоўка дэпутатаў мела моцны псіхалагічны эфект. Калі пачалося галасаванне, то толькі адно пытанне — эканамічная інтэграцыя з Расіяй — было паспяхова зацверджана: «за» прагаласавалі 180 дэпутатаў пры кворуме ў 152. Праўда, дэпутат Генадзь Карпенка лічыў, што гэтае пытанне не варта выносіць на ўсенароднае галасаванне, бо, на яго думку, альтэрнатывы эканамічнаму супрацоўніцтву з Расіяй не існуе. У адказ раз'юшаны Лукашэнка заклікаў Карпенку вярнуцца ў Горад Сонца (Маладзечна) і «достроить там свой Бродвей с банками».

Астатнія пытанні не набралі дастатковай колькасці галасоў. Калі за першае пытанне прагаласавалі 124 дэпутаты, то за другое — 150, а за чацвёртае — 86.

Склалася патавая сітуацыя: дэпутаты зацвердзілі дату рэферэндуму, але не зацвердзілі пытанні. Гэта вывела Лукашэнку з раўнавагі. Пакідаючы парламент, Лукашэнка прыгразіў, што калі пытанне з рэферэндумам не будзе вырашана станоўча, ён спецыяльным указам прыпыніць дзейнасць Вярхоўнага Савета. У адказ яму было прапанавана, каб яго прадстаўнікі сустрэліся з чальцамі пастаянных камісій парламента па заканадаўстве і па дзяржаўным будаўніцтве (старшыня — Уладзімір Леўчык) і выпрацавалі агульныя падыходы.

Аднак Лукашэнка супрацьпаставіў кансенсусу сілу. У ноч з 11 на 12 красавіка дэпутаты-галадоўнікі былі гвалтоўна «эвакуяваныя» з будынку парламента і пры гэтым моцна збітыя. Канва падзеяў у тую страшэнную ноч агульнавядомая.

## 12 красавіка

Улічваючы вялікі грамадскі рэзананс, Лукашэнка разумеў, што мусіць выступіць у Вярхоўным Савеце. Аднак спачатку ён вырашыў выставіць «хлапчукоў для біцця»: міністра абароны Анатоля Кастэнку і начальніка Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай аховы МУС (і адначасова дэпутата) Міхаіла Цесаўца. Яны даказвалі, што дэпутаты пагражалі кровапраліццем. Удзельнікі галадоўкі, наадварот, сцвярджалі, што супрацьпраўных дзеянняў не чынілі. Як сведчыў Ігар Гермянчук, дэпутаты былі атакаваныя ажно трыма шэрагамі: людзьмі ў масках, спецназам, а затым — аўтаматчыкамі. Сяргей Навумчык быў упэўнены, што Лукашэнка асабіста каардынаваў аперацыю па гвалтоўнай «зачыстцы» дэпутатаў.

Прыбыўшы на вячэрняе пасяджэнне, Лукашэнка заявіў, што кожныя трыццаць хвілін ведаў пра ўсё, што адбываецца ў Авальнай зале. Абвінаваціўшы ва ўсім удзельнікаў галадоўкі, Лукашэнка патрабаваў ад генеральнага пракурора ўзбуджэння крымінальнай справы.

Галадоўнікі, у сваю чаргу, патрабавалі прадэманстраваць відэазапіс з камеры назірання падзей у ноч з 11 на 12 красавіка. Нягледзячы на абяцанні ўладаў і асабістыя абяцанні Лукашэнкі, гэта не зроблена дасюль. Следства істотных вынікаў не мела.

## 13 красавіка

Пасля збіцця дэпутатаў парламент быў цалкам дэмаралізаваны. Абстрагаваўся ад сітуацыі і старшыня Вярхоўнага Савета Грыб. Праз шмат гадоў у сваіх мемуарах ён сцвярджаў, што вымушаны быў праводзіць лінію парламенцкай большасці.

А Лукашэнка вырашыў не цырымоніцца з дэпутатамі, а дасягнуць мэты адным махам. Перад народнымі абраннікамі выступіў Уладзімір Леўчык і заявіў, што пытанні (тры першыя — абавязковыя, чацвёртае — кансультатыўнае) не супярэчаць заканадаўству і могуць быць вынесеныя на ўсенароднае галасаванне. Больш за тое, казаў Леўчык, лепш галасаваць за праект пастановы цалкам, а не па пытаннях.

Каб зрабіць дэпутатаў больш лагоднымі (парламенцкая апазіцыя пасля збіцця прынцыпова адсутнічала на сесіі), Лукашэнка пайшоў на тонкі псіхалагічны крок: у апошні дзень сесіі для дэпутатаў быў арганізаваны шыкоўны банкет. На заклік Шушкевіча, што трэба думаць пра Радзіму, а не пра банкет, Лукашэнка запрасіў дэпутатаў «выпить по сто грамм и по двести».

Адначасова ён удала гуляў і на жыццёвых чаканнях дэпутатаў. Вярхоўны Савет 12 склікання заканчваў працу, многім парламентарам трэба было вызначацца з месцам далейшай працы. Прапанова кіраўніка дзяржавы гучала прывабна: «Вы здоровые мужики, каждый специальность имеет, приходите и скажите, где вы хотите работать. Давайте договоримся раз и навсегда, чтобы не трепали друг другу нервы».

13 красавіка 1995 года дэпутаты зацвердзілі так чаканую Лукашэнкам пастанову пра правядзенне рэферэндуму. Яго падтрымалі 177 дэпутатаў са 185, якія прынялі ўдзел у галасаванні.

## Адважны Гілевіч

Прынцыповую пазіцыю супраць рэферэндуму заняў старшыня камісіі Вярхоўнага Савета 12 склікання па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч. У красавіку 1995 года камісія народнага паэта двойчы звярталася ў Канстытуцыйны Суд: з патрабаваннем разгледзець пытанне аб наданні рускай мове статусу дзяржаўнай, а затым — пастанову Вярхоўнага Савета ад 13 красавіка аб правядзенні рэферэндуму.

Адпаведныя рашэнні Канстытуцыйнага Суда ад 12 красавіка і 3 мая 1995 года былі несуцяшальнымі. Суд увогуле адмовіўся нешта разглядаць, бо гэта нібыта не ўваходзіла ў ягоную кампетэнцыю. Пэўную ролю адыграў тут Валерый Ціхіня. Ён быў прызначаны старшынёй Канстытуцыйнага Суда Вярхоўным Саветам з падачы Лукашэнкі 23 сакавіка 1995 года, а таму псаваць адносіны з апошнім, зразумела, не жадаў.

Такім чынам, перамога Лукашэнкі была абумоўлена цэлай сукупнасцю фактараў: яго гатоўнасцю ісці да канца, ажно да ўжывання сілы ў адносінах да апанентаў, аморфнасцю дэпутацкай большасці Вярхоўнага Савета, дамінантай асабістых інтарэсаў парламентараў над грамадзянскім абавязкам… Усё гэта прывяло да таго, што ў красавіку 1995 года — пад клацанне аўтаматаў і пад звон келіхаў — быў нанесены моцны ўдар па праваой дзяржаве і дэмакратыі.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### АЗЕРБАЙДЖАН. Элегантнай перамозе — элегантная апазіцыя

На прэзідэнцкіх выбарах перамог Ільхам Аліеў з 84 працэнтамі галасоў. Такі вынік чакаўся ад самага пачатку, але тым не менш згаданыя выбары дакладна трапяць у гісторыю. Яшчэ ніколі ў краінах СНД (магчыма, акрамя Туркменістану) апазіцыя не выстаўляла сябе настолькі лаяльнай да ўлады. Дайшло да таго, што канкурэнты па перадвыбарчай гонцы адкрыта падтрымлівалі дзеючага кіраўніка дзяржавы. Напрыклад, Араз Алізадэ, кандыдат ад сацыял-дэмакратаў, прызнаў: «Вядома ж, бясспрэчным лідарам з'яўляецца Ільхам Аліеў». Іншы кандыдат, прадстаўнік партыі «Сучасны Мусават» Хафіз Гаджыеў увогуле заявіў мясцовым СМІ, што прагаласаваў за Ільхама Аліева. Варта адзначыць, што старыя апазіцыйныя сілы краіны, такія, як «Мусават» і «Народны фронт», байкатавалі выбары. Гэтая праблема была вырашана ўладай вельмі неардынарна. Некаторыя палітыкі, якія раней мелі дачыненне да вядомых апазіцыйных партый, стварылі ўласныя рухі з падобнымі назвамі. Так, паралельна старой апазіцыйнай партыі «Мусават» у краіне дзейнічае праўладная партыя «Сучасны Мусават» і гэтак далей.

**Паводле азербайджанскай прэсы**

### УКРАІНА. Доктар Хаўс вылечыць народ?

Вялікі рэзананс выклікалі ва Украіне парады ад Міністэрства аховы здароўя, што на поўным сур'ёзе прапануе медыкам глядзець медыцынскія серыялы. Аказваецца, яны могуць быць «не проста прыемным заняткам, але і карысным фарматам навучання». Як піша міністэрства, «героі медыцынскіх серыялаў ужываюць не толькі папулярныя гутарковыя фразы, але і карыстаюцца медыцынскай тэрміналогіяй, вядуць дыялогі з пацыентамі і гэтак далей. Паступова вы будзеце ведаць шмат новых слоў і выразаў, а таксама навучыцеся хутка арыентавацца ў кантэксце фільмаў», — цытуе прэса парады міністэрства. Рэкамендацыя выклікала шквал жартаў. Людзі смяюцца, уяўляючы розныя сітуацыі — напрыклад, экзамены ў медыцынскую ВНУ, дзе ад абітурыента патрабуюць пераказаць 12-ы эпізод трэцяга сезона «Доктара Хаўса». Або рэцэпт лекара асабліва цяжкім хворым, у якім пазначаная інтэрнэт-спасылка на серыял «Рэанімацыя». Праўда, таго дакумента пакуль ніхто не бачыў. Пра яго распавёў губернатар Закарпацкай вобласці Генадзь Маскаль — жорсткі крытык цяперашняга кіраўніка Міністэрства аховы здароўя Ульяны Супрун. З іншага боку, наколькі раней Супрун заклікала лячыць рак усмешкамі, Маскалю ўкраінцы ахвотна вераць.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Можа, хопіць хобітаў?

Ужніўні гэтага года чакаецца выхад невядомай кнігі Джона Толкіена. Пра гэта паведаміў 12 красавіка Крыстафер Толкіен, сын знакамітага пісьменніка. Ужо вядома, што кніга носіць назву «Падзенне Гандаліна» і з'яўляецца пралогам да вядомай трылогіі пра хобітаў «Уладар пярсцёнкаў». Парадаксальна, аднак навіна не выклікалаататальнай эйфарыі ў шэрагах фанатаў Толкіена. Некаторыя з іх баяцца, што любімы літаратар пастаўлены на канвеер. Варта ўзгадаць, што ў мінулым годзе той жа Крыстафер выпусціў кнігу бацькі з назвай «Берэн і Люціэн». Хапае на брытанскіх інтэрнэт-форумах і тых, хто не верыць, што Толкіен напісаў «Падзенне Гандаліна». На іх думку, хутчэй за ўсё, ён прыдумаў агульны сюжэт і пакінуў нейкія нататкі, а саму кнігу пісалі ў наш час. Мяркуюць, што права на выхад твору ўсё ж павінен даваць сам аўтар, які разумее, наколькі кніга вартая друку. Пакуль аматары Толкіена спрачаюцца, кнігай зацікавіліся тэлевізійнікі. Правы на экранізацыю ўжо выкупленыя карпарацыяй «Amazon».

**Паводле брытанскай прэсы**

### РАСІЯ. Пірацкая дзяржава

Вялікі энтузіязм у некаторых расіян выклікала ідэя аднаго з парламентарыяў, які прапанаваў свой арыгінальны адказ на амерыканскія санкцыі. Першы намеснік старшыні камітэта Дзярждумы па дзяржаўным будаўніцтве і заканадаўстве Міхаіл Емяльянаў заявіў: «Мы зможам самі вырабляць тую прадукцыю, калі мы валодаем тэхналогіяй, без дазволу праваўладальніка». Працэй кажучы, міжнароднае аўтарскае права на тэрыторыі Расіі можа быць скасаванае. Ідэю ўспрынялі «на ўра». Больш за ўсё расіян радуе, што, магчыма, будзе легалізаваная любая кантрафактная прадукцыя, у тым ліку праграмнае забеспячэнне. Некаторыя нават заклікаюць друкаваць долары і за гэты кошт утрымліваць высокі курс рубля. Праўда, гучаць і заклапочаныя галасы. Некаторыя непакояцца, што машыны, накшталт «Таёты», будуць рабіць на заводзе, дзе выпускаюць «Жыгулі». Таксама баяцца, што такі падыход Расіі можа не спадабацца Кітаю, які сам актыўна капіюе заходнюю тэхніку.

**Паводле расійскай прэсы**

# Ці баіцца Орбан сабакі з двума хвастамі?

*Алег НОВІКАЎ*

**Поспех партыі Віктара Орбана на выбарах выклікаў крызіс старых апазіцыйных партый ды зрабіў франтмэнам апазіцыі сатырычную тусоўку пад назвай «Партыя сабакі з двума хвастамі».**



Фота www.voanews.com

Хаця вынікі парламенцкіх выбараў у Венгрыі агучылі больш за тыдзень таму, градус палітычнай напружанасці на берагах Дуная і не думае спадаць. У мінулы ўік-энд у Будапешце аб'яднаная апазіцыя правяла стотысячны мітынг. Яго ўдзельнікі акрамя антыўрадавых лозунгаў актыўна спявалі песні венгерскага паўстання 1848 года, што надавала акцыі радыкальны прысмак. Гэта было самае буйное дэфіле апанентаў рэжыму Орбана ад 2010 года.

Праўда, за такую колькасць маніфестантаў арганізатары павінны быць часткова ўдзячныя самому Орбану. Напярэдадні блізкія да ўраду СМІ, як і абяцаў прэм'ер, апублікавалі «пайменны спіс наймітаў Сораса» (мільярдэр Джордж Сорас — асабісты вораг Віктара Орбана). У спіс трапілі сябры праваабарончых арганізацый кшталту «Amnesty International», «Хельсінкскай групы», «Грамадства за Transparency International» і гэтак далей.

Сам факт публікацыі такога спісу стаў выклікам для грамадскасці. Прычым, Орбан спыняцца яўна не збіраецца. У парламенце ўжо з'явіўся законапраект, паводле якога могуць быць забароненыя або даведзеныя да банкруцтва няўрадавыя арганізацыі, якія дапамагаюць уцекачам.

Пакуль у дуэлі «ўлада супраць апазіцыі» палітычныя букмекеры робяць стаўку на ўладу. Венгры, якія ходзяць на мітынгі, не маюць сістэмнай альтэрнатывы. Пасля выбараў кіраўнікі вядучых апазіцыйных партый абвясцілі пра адстаўкі. Няма моцных лідараў і ў грамадзянскай супольнасці. Інтэлігенцыя палохае народ унутранай або знешняй эміграцыяй сваіх звышкаштоўных мазгоў. Аднак людзей выводзяць на акцыі ўласныя праблемы — пачынаючы ад нізкіх заробкаў і кепскай адукацыі дзяцей да асабістых антыпатый на адрас Орбана. Словам, доўгатэрміновыя пратэсты кшталту Майдана або Балотнай плошчы ў Венгрыі наўрад ці магчымыя.

У гэтым плане цікава, што ў заходняй прэсе пачалі надаваць шмат увагі праекту «Партыя сабакі з двума хвастамі» (МККР). Гэта адна са шматлікіх сатырычных партый, якія апошнім часам дастаткова папулярныя ва Усходняй Еўропе. Як правіла, ля вытокаў такіх партый стаіць багема або моладзь, якая здзекуецца з карумпаванага палітыкуму, прычым выкарыстоўвае для гэтага абсурдныя ідэі або робіць смешныя афіцыйныя заявы.

Адпаведным чынам выглядае і праграма МККР, якая ўключае наступныя абяцанкі: вечнае жыццё, мір ва ўсім свеце, адзін працоўны дзень на тыдзень, два заходы сонца на дзень (розных колераў), паменшаная сіла гравітацыі, бясплатнае піва і нізкія падаткі.

Увогуле, «Партыя сабакі з двума хвастамі» паўстала ў 2006 годзе і хутка зрабіла сабе імя за кошт кампаніі «За меншую Венгрыю». Актывісты МККР малявалі графіці і распаўсюджвалі

**У той час, як улады запусцілі ксенафобскую кампанію супраць уцекачоў, МККР сабрала грошы на 800 білбордаў, дзе быў напісаны зварот да мігрантаў: «Адчувайце сябе вольна. Мы ўсе з'ехалі працаваць у Англію»**

ўлёткі, на якіх была адлюстравана толькі частка тэрыторыі цяперашняй Венгрыі. Іншыя землі на мапе былі «аддадзеныя» Аўстрыі, Славеніі, Харватыі, Сербіі, Румыніі, Украіне і Славакіі. Гэта была вельмі брутальная сатыра на патрабаванні нацыяналістаў прад'явіць шэрагу суседніх краін тэрытарыяльныя прэтэнзіі.

Аднак сапраўдны прарыў для сатырыкаў адбыўся падчас крызісу з мігрантамі ў 2016 годзе. У той час, як улады запусцілі ксенафобскую кампанію супраць уцекачоў, МККР сабрала грошы на 800 білбордаў, дзе быў напісаны зварот да мігрантаў: «Адчувайце сябе вольна. Мы ўсе з'ехалі працаваць у Англію». У 2014-м партыя атрымала рэгістрацыю і права вылучаць кандыдатаў. Першы блін не аказаўся камяком. 8 красавіка за кандыдатаў прагаласавала 1,6 працэнта выбаршчыкаў.

Паказчык вельмі сціплы, аднак заходняя прэса прысвяціла МККР шмат матэрыялаў. Такія салідныя выданні, як «Newsweek», «Guardian», «Tageszeitung» і іншыя на ўсю моц ухваляюць венгерскіх сатырыкаў, якія праводзілі кампанію, апранутыя ў касцюмы жывёл. Такім чынам актывісты данеслі ідэю, што венгерскі выбаршчык згубіў веру ў палітыкаў-людзей.

Феномен цікавасці да МККР на Захадзе ў каментары «Новаму Часу» паспрабаваў растлумачыць украінскі навуковец **Сяргей Бандарчук**, які навучаецца ў Будапешце.

— На маю думку, ёсць дзве прычыны інтарэсу да МККР з боку Захаду. Па-першае, гэтая партыя — абсалютны лідар у венгерскім сегменце інтэрнэту. На акаўнт «Партыі сабакі з двума хвастамі» падпісана каля 300 тысяч чалавек. Менавіта папулярнасць у сецыве ўсё часцей становіцца ўмовай электаральных перамогаў.

Па-другое, у Еўропе бачаць, што старая апазіцыя ніяк не прыйдзе ў сябе, шакаваная вынікамі выбараў. Паслявыбарчыя выступы лідараў апазіцыйных партый выклікаюць хутчэй смутак і пачуццё адсутнасці нейкіх перспектыў. І хаця ўсе лідары партый, акрамя Бернадэт Сэл (старшыня партыі эколагаў) падалі ў адстаўку, асаблівых спадзяванняў на новае кіраўніцтва не назіраецца. «Партыя сабакі з двума хвастамі» выглядае тут сапраўдным кантрастам. Для іх выбары былі дэбютам, і таму 1,68 працэнта галасоў — гэта перамога. Акрамя таго, атрымаўшы больш за адзін працэнт, партыя займее дзяржфінансаванне. Бадзёрасць духу — менавіта тое, што трэба ў цяперашніх цяжкіх умовах. Сёння сярод апазіцыянераў выключна лідары МККР кажуць, што збіраюцца перамагаць.



Фота www.n-w.tv

# Нашто немцам Пучдэман?

Алег НОВІКАЎ

**Рашэнне нямецкай Феміды не выдаваць каталонскага незалежніка Карлеса Пучдэмана Іспаніі выклікала дыпламатычнае напружанне паміж Берлінам і Мадрыдам.**

Шлях Пучдэмана ў Германію быў вельмі доўгім. Пачалося яго падарожжа летась 30 кастрычніка, калі генпракурор Іспаніі абвінавацiў яго — на той час кіраўніка ўраду Каталоніі — у спробе сепаратысцкага путчу і карупцыі. Аднак Пучдэман напярэдадні паспеў збегчы ў Брусэль. Там ён заставаўся ў незразумелым прававым статусе да канца сакавіка 2018-га, калі іспанскія ўлады аднавілі еўрапейскі ордэр на яго арышт. Палітык адразу паспяшаўся з'ехаць у Фінляндыю, адкуль вырашыў накіравацца ў ФРГ, на мяжы якой яго ўжо чакала нямецкая паліцыя.

Спачатку падавалася, што Карлесу Пучдэману засталося нядоўга гуляць на свабодзе. Прынамсі, не супраць яго экстрадыцыі была нямецкая пракуратура. Аднак раптам 5 красавіка зямельны суд зямлі Шлезвіг-Гальштэйн вызваліў Пучдэмана з-пад арышту і вынес рашэнне аб немагчымасці яго экстрадыцыі. Лідар каталонскіх незалежнікаў нават выйшаў на волю пад заклад у 75 тысяч еўра. Пры гэтым нямецкі ўрад вуснамі міністра юстыцыі заявіў, што лічыць рашэнне суда Шлезвіг-Гальштэйна «абсалютна карэктным». Такія дзеянні з боку немцаў, натуральна, выклікалі абурэнне іспанскага боку. Міністр замежных спраў Іспаніі дыпламатычна назваў рашэнне «няўдалым».

У любым выпадку, паўстала пытанне: у якую гульню гуляе Германія? У прэсе хапае версій. Хаця, магчыма, Германія ні ў якую гульню і не гуляе. Частка нямецкай грамадскасці пабачыла ва ўсёй гэтай гісторыі трыумф незалежнасці судовай галіны ўлады. «Выключна ў Германіі магло адбыцца нешта падобнае, паколькі тут вердыкты юстыцыі вышэй за думку парламента або ўрада. Германія прадэманстравала, што яна з'яўляецца прававой краінай», — сцвярджае выданне «Freitag».

Нагадаем, суд скасаваў папярэднія высновы пракуратуры, якая пагадзілася з аргументамі Мадрыду — Пучдэман вінаваты ў спробе арганізацыі перавароту. Аднак адзнак якіх-небудзь антыдзяржаўных дзеянняў, накіраваных на арганізацыю змовы, суд не знайшоў. Згодна з артыкуламі Крымінальнага кодэкса ФРГ, для прад'яўлення такога сур'ёзнага абвінавачвання неабходная наяўнасць гвалтоўных дзеянняў або, як мінімум, заклікаў да іх. У дасье Пучдэмана, сапраўды, ніякага гвалту ці падобных заклікаў няма.

Аднак большасць каментатараў усё ж бачаць у падзеях палітычны падтэкст. На іх думку, Меркель наўмысна не экстрадуе Пучдэмана, каб мець нейкі рычаг уплыву на Мадрыд. Паводле гэтых экспертаў, у Берліне заклапочаныя тым, як жорстка іспанскі кансерватыўны прэм'ер Мар'яна Рахой вырашыў расправіцца з каталонскімі незалежнікамі, правакуючы тым самым турбулентнасць ва ўсёй Паўднёвай Еўропе. Газета «Junge Welt» піша: «Берлін і Брусэль праводзяць палітыку жорсткай эканоміі, з дапамогай якой збіраюцца вырашыць пытанне фінансавага крызісу і нейтралізаваць пратэсты. Аднак такі курс можна праводзіць выключна ва ўмовах стабільнасці. Іспанцы сваёй рэпрэсіўнай палітыкай разбіваюць карабель ЕС аб рыф каталонскай незалежнасці».

Яшчэ адзін момант тычыцца праблемы легітымнасці правадыра каталонскіх незалежнікаў. Як ні круці, Карлес Пучдэман быў абраны на пасаду кіраўніка ўраду аўтаноміі абсалютна празрыста і дэмакратычна. Калі іспанцы адправяць яго на турэмныя нары ў якасці путчыста, паўстане прававы нонсенс. Шэраг юрыстаў нават лічаць, што ў такім выпадку ЕС атрымае першага ў сваёй гісторыі палітычнага вязня.

Калі асудзіць каталонца, будуць і іншыя негатыўныя наступствы. Перш за ўсё, іспанскі досвед барацьбы з сепаратызмам можа быць узяты на ўзбраенне іншымі ўрадамі ЕС, якія сутыкнуліся з пагрозамі на адрас нацыянальнага адзінства. Эксперт іспанскага прэцэдэнту, паводле прэсы, будзе спрыяць узнікненню новых канфліктаў і развіццю аўтарытарных трэндаў.

І яшчэ адзін цікавы аргумент на карысць таго, каб Берліну ўтрымліваць Пучдэмана. У прэсе агучваліся тэорыі, што Пучдэман спрабаваў праз Фінляндыю збегчы ў Расію. У такім выпадку, як пішуць каментатары, каталонскі незалежніцкі рух можа стаць фігурай глабальнай геапалітычнай партыі.

Аднак не выдаць Пучдэмана Берліну будзе няпроста. У Мадрыдзе, падаецца, упарта лічаць, што каталонскім сепаратыстам трэба даць урок, каб перастрахавацца ў будучым ад рэцыдываў абвяшчэння незалежнасці. Улады Іспаніі таксама спадзяюцца, што пакаранне лідараў «путчу» саб'е новую пратэстную хвалю: 15 красавіка сотні тысяч прыхільнікаў незалежнасці Каталоніі ад Іспаніі выйшлі на вуліцы Барселоны, патрабуючы вызвалення затрыманых за спробу абвяшчэння незалежнасці ў мінулым кастрычніку.

Так ці інакш, рэбус Пучдэмана будзе разгаданы бліжэйшым часам. Іспанскае праўладнае выданне ABC зрабіла разлік часу, які неабходны Германіі на выкананне ўсіх мерапрыемстваў для экстрадыцыі затрыманага. Паводле разлікаў, ужо ў маі Пучдэман можа быць перададзены ў Іспанію — хай не як падазраваны ў арганізацыі путчу, аднак падазраваны ў карупцыі. Нямецкі ж бок пакуль не вельмі спяшаецца. Толькі на гэтым тыдні адпаведныя профільныя органы Іспаніі і ФРГ пачнуць кансультацыі на дадзеную тэму.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Абдэльазіз Бутэфліка



У прэсу трапляе ўсё больш інфармацыі пра тое, што 81-гадовы прэзідэнт Алжыра, які займае гэтую пасаду 19 гадоў, збіраецца зноў балатавацца. У прыватнасці, такога сцэнару не выключыў прэм'ер краіны.

Падтрымала ідэю і кіраўніцтва ўрадавай партыі «Фронт Нацыянальнага Вызвалення» (FLN). Намер Бутэфлікі пяты раз запар заняць пасаду кіраўніка Алжыра выглядае амаль фантастычным, калі ўзгадаць, што палітык хворы на рак страўніка. Праз хваробу ён даўно не можа рухацца самастойна і вельмі рэдка з'яўляецца на людзях: аднойчы такая паўза цягнулася аж два гады. Не дзіўна, што СМІ рэгулярна публікуюць плёткі пра смерць прэзідэнта.

Размовы пра пятую кадэнцыю Бутэфлікі — адзнака таго, што нацыянальная эліта краіны падзеленая на фракцыі, якія не здольныя дамовіцца наконт фігуры пераемніка. Адсюль песімістычныя прагнозы пра тое, што чакае краіну пасля скону «алжырскага Брэжнева». Між тым, у апазіцыйнай прэсе з'явіліся спекуляцыі, што дзяржаўныя піяршчыкі ўжо думаюць, як падчас будучых выбараў зрабіць мізансцэну. Па сюжэце, Бутэфліка павінен кінуць у скрыню бюлетэнь перад камерамі журналістаў. Аднак не факт, што ён будзе фізічна ў стане зрабіць такі ўчынак.

Выбары прэзідэнта Алжыра адбудуцца ў красавіку 2019 года.

### Паўлін Крыке



Мэр нідэрландскага горада Гаага замахнулася на самае святое — падпісала пастанову, якая забараняе продаж марыхуаны ў цэнтры горада. Такім чынам, Гаага стала першым горадам у Нідэрландах, якая адмовілася ад марыхуаны як атракцыёна для турыстаў.

Турысты, як вядома, любяць наведаць так званыя кафэ-шопы — установы, дзе дазволены продаж марыхуаны. А вось у цэнтры Гаагі такіх кропак больш не будзе.

Так далёка ў барацьбе з «траўкай» не заходзіў ніводны муніцыпалітэт у краіне. Максімум, што дазвалялі сабе мэры, — забаранялі продаж «траўкі» каля школаў. Таксама некалькі гадоў таму былі забароненыя кафэ-шопы ў памежнай зоне — праз рост кантрабанды. На цяперашні момант у краіне функцыянуюць 573 установы, дзе можна набыць марыхуану. Доўга гэта лічылася цалкам нармальнай з'явай, аднак апошнім часам у грамадстве пачала дамінаваць думка пра тое, што наркотыкі правакуюць людзей на антысацыяльныя паводзіны. Акрамя таго, наркотыкі для продажу ў кафэ-шопах набываюць на рынку, які не кантралюецца дзяржавай.

Хапае ў Паўлін і крытыкаў. Іх палохае скарачэнне турыстычнага патоку. Некаторыя лічаць, што бургамістр Гаагі падрывае нідэрландскія прынцыпы талерантнасці.

### Айрат Дыльмухаметаў



Актывіст башкірскага нацыянальнага руху запісаў відэазварот да ўдзельнікаў V форума «Свабодная Расія» — традыцыйнай сустрэчы апанентаў Пуціна ў Вільні, якая ў гэтым годзе прайшла 11–12 красавіка. Зварот аказаўся вельмі рэзанансным.

Перш за ўсё Айрат распавёў пра свае планы ў выпадку абрання яго «прэзідэнтам Чацвёртай Башкірскай Рэспублікі». Адным з першых дакументаў новай адміністрацыі, як абяцае Дыльмухаметаў, будзе «дэнансацыя рашэння шэрагу башкірскіх плямёнаў, якія ў сярэдзіне XVI стагоддзя заявілі пра прызнанне суверэнітэту Вялікага Княства Маскоўскага». Па словах палітыка, тыя рашэнні былі вялікай палітычнай і стратэгічнай памылкай, якая потым вылілася ў агульнанацыянальную катастрофу.

Акрамя таго, Дыльмухаметаў раскрытыкаваў сам форум «Свабодная Расія» за тое, што ён ніколі не ўздымаў праблемы нацыянальных рэспублік і пытанні федэралізму. Менавіта з-за таго, што ў пачатку 2000-х гадоў, калі Крэмль пачаў пераглядаць дамовы з аўтаномнымі рэспублікамі, у Расіі пачалася дэградацыя грамадзянскіх правоў і свабод. У выніку, мяркуе Дыльмухаметаў, расійскія дэмакраты павінны змагацца не супраць рэжыму Пуціна, а за шырокую аўтаномію суб'ектаў Расійскай Федэрацыі.

Сумнеўна, што Хадаркоўскі, Каспараў і іншыя бацькі расійскай дэмакратыі пагодзяцца інвеставаць рэсурсы ў падтрымку нацыянальных рух аў у рэспубліках. У тым ліку таму, што гэта не спадабаецца рускамоўнай большасці ў той жа Башкірыі. Праўда, у Дыльмухаметава дастаткова апанентаў і сярод башкірскіх дэмакратаў, якія лічаць яго правакатарам і нават разумова хворым.

# «Прасіце Бога, каб нас уз’яднаў...»

## Шчыры расповед остарбайтэра з Падароску

Алесь КІРКЕВІЧ

**Што мы ведаем пра остарбайтэраў у часы Другой сусветнай вайны? Перад вачыма адразу паўстаюць змучаныя хлопцы і дзяўчаты ў робах з нашыўкай OST, што працуюць на нейкім абарончым заводзе ў Сілезіі ці Памераніі... Ёсць статыстыка, ёсць лічбы, ёсць базы з прозвішчамі. Але каб займець больш рэалістычную карціну, давайце дадзім слова самому остарбайтэру, які ў 1943-м трапіў з Падароску ў Фраўэнбург на берагах Балтыкі...**



Гэтая гісторыя пачалася з архіву з дваццаці канвертаў 1943–1944 гадоў, якія часова апынуўся ў маіх руках. Да таго ж канверты былі не пустыя, але хавалі ў сабе лісты, напісаныя Мікалаем Давыдзюком на адрас свайго бацькі ў Падароск, што на Ваўкавышчыне. І тут я пачаў чытаць... Лісты простага хлопца, напісаныя на руска-беларуска-польскай трасянцы, падаюцца максімальна шчырымі, без хітрыкаў і пафасу, і ад гэтага тым больш цікавымі. За імі — рэаліі побыту остарбайтэраў, нашых землякоў, якія апынуліся цягам вайны ў Германіі.

### «Прашу, каб не сумавалі, пакуль весела»

Першыя некалькі кароткіх лістоў, якія датуюцца ліпенем 1943-га, Мікалай піша бацькам з часовага лагеру. Ягоная дарога выглядала наступным чынам: Падароск — Ваўкавыск — Беласток — Фраўэнбург. Замест зваротнага адрасу — наўпрост «Беласток», тагачасны цэнтр «бецыркі», куды ўваходзіў і Ваўкавыск, усё гэта намінальна адносілася да Усходняй Прусіі і было часткай Рэйху.

«Па гэты дзень знаходзімся ў Беластоку, — піша Мікалай. — Ад’езд у аўторак ці сераду. Штодзённа адпраўляюць моладзь, ёсць тут і сем’і з Украіны з-пад Уладзімірска(?). Бачыў Кердала Стася, які падыходзіў да брамы, каб пагутарыць, мо’ ёсць хто з Падароску. Прашу вас, каб не сумавалі, тут весела...»

Наступны ліст — амаль праз месяц, ужо напрыканцы ліпеня, калі хлопцаў размяркоўваюць па розных мясцовасцях, дзе ім далей жыць і працаваць.

Чытаем: «Учора ўвечары на заходзе сонца пагрузіліся на цягнік. Аб 11 вечару былі ў Беластоку. Зараз чакаем камісіі, паводле (рашэння) якой паедзем у пэўныя пункты. Дарогаю было весела, тут едуць людзі з розных гмінаў. Прашу вас, каб не сумавалі, нам пакуль весела. Тыя, хто выехаў з Падароску, трымаюцца разам».



Архіў ліставання Мікалая Давыдзюка

### Кава, хлеб і... мармелад

Па выніку размеркавання Мікалай трапіў у Фраўэнбург на беразе Балтыкі, што зараз знаходзіцца ў Польшчы (Фромбарг), але на той час лічыўся прускім гарадком. У другой палове жніўня ён піша бацькам падрабязны ліст, дзе апісвае ўмовы свайго побыту. Найперш, вядома, пра ежу: «Сталуемся мы на кухні ў осляндзі (мабыць, ад «Остланд»), тут працуе каля 40 чалавек. Ранкам перад працай кава і кавалак хлеба, нашмараванага чым-небудзь. (...) У абед бульба з морквай ды капустай. (...) Праз дзень порцыя мяса, на вячэру бульба з мукою. Апроч гэтага атрымліваем ежу па картках».

Далей ідзе апісанне двухтыднёвай нормы, якую супрацоўнік атрымлівае па картцы. Гэты тры булкі, якія важаць па паўтара кілаграмы. А яшчэ ёсць «цузас-карта», па якой ідзе яшчэ хлеб... З іншых прадуктаў: 25 дэкаў масла (дэка — 10 грамаў, таму, чытай 250 грамаў масла), 25 дэкаў цукру, 50 дэкаў мармеладу, 20 дэкаў маргарыну, 25 дэкаў вяндліны, 4 яйкі, 2 кг, альбо 40 будачак з пшаніцы. Гарбата — «колькі заўгодна і калі заўгодна».

### «Майстар сказаў, што мы як у войску...»

У тым жа лісце Мікалай апісвае працу, на якую трапіў. Гэта фізічная праца па умацаванні ды будаўніцтве чыгуначных шляхоў. Туды і назад усю брыгаду возіць цягнік. Працуюць 8 чалавек, з якіх чацвёра хлопцаў, тры жанчыны і майстар-паляк. Цікава, што апошні — не остарбайтэр, але перасяленец з 1913-га года, паходзіць з Радама, ён ажаніўся ды застаўся тут. Паляк будзе фігураваць у лістах і надалей: ён дапамагацьме хлопцам цёплай бялізнай ды ежай.

У пакоях працоўныя жывуць па два чалавекі. Ложак звычайны: сеннік і падушка. Зранку пад’ём і... «Праца лёгкая, ад шостай да паловы на чацвёртую — наша праца з дарогай. Пасля працы хто як жадае, дадому ісці альбо ў горад. А палове на чацвёртую абед стаіць у печы. (...) Нядзеля вольная, можна хадзіць па горадзе. Прашу вас, не сумуйце, бо кожную ноч сніцца мне, як вы мяне выпраўляеце і я развітваюся».

Варта дадаць, што напрыканцы 1943-га года кагосьці з хлопцаў з ваколіц пераводзяць на іншыя працы, але Мікалай спакойны: «Я пытаўся ў свайго майстра, ці могуць забраць нас, але ён адказаў, што мы як у войску, таму спадзяюся дабыць на адным месцы».

Магчыма, праца на чыгунцы лічылася стратэгічнай, а мо’ нават адносілася да ведамства парамілітарных структураў, кшталту RAD ці Арганізацыі Тодта, адсюль і абарот пра «войска».

Варта дадаць, што па заездзе ў хлопца з’яўляецца і сталы адрас, нязменны ад жніўня 1943-га да траўня 1944-га: Mikolaj Dawydzuk, Frauenburg, Langgasse №166, Kreis Braunsberg, Reg Bez. Konigsberg (Ostpr.).

### Гармонік і лекі «ад слабага сэрца»

Стасункі Мікалая Давыдзюка з сям’ёй (бацька, маці, сёстры, дзядзька) — гэта не толькі гісторыя ліставання, а яшчэ і пасылкі ды грашовыя пераводы. Грошы Мікалай дасылае ў Падароск траншамі па 50 марак: калі вельмі груба, гэта нешта кшталту 100 сучасных долараў. Ад грошай з боку бацькоў ён адмаўляецца: «...Вы пішаце, што хочаце выслаць грошай, але яны мне не патрэбныя. Купляць няма чаго, а калі што і трапляецца, то і грошы знаходзяцца».

Што высылаюць бацькі? Нагавіцы, шкарпэткі, ручнік, а з харчоў: сухары, каўбаса, «вантрабянка», сланіна ды іншае мяса. Апроч грошай Мікалай высылае дадому скрыні, але што ў іх, на жаль, удакладняе зрэдку, напрыклад: пра дрожджы і канверты. Іншым разам піша пра лекі, якія шукае па замове бацькоў, — кроплі ад «слабага сэрца». З медыкаментамі выйшла праблема, і хлопец вымушаны звяртацца па дапамогу да немца. Іншым разам нейкі Валодзя, відаць, сваяк, просіць Мікалая пра... гармонік! Той адказвае, што пад рукой няма, але пашукае, як будзе ў горадзе.

З лістамі і пасылкамі час-почас здараюцца перабоі. Так сталася, прыкладам, у лістападзе 1943-га. Хлопец піша пра абмежаванне колькасці лістоў: два на месяц. Але і тут знаходзіць лазейку, прапануючы бацькам, як што, пісаць на іншы адрас — на іншага чалавека. Тое ж і з пасылкамі. У наступным лісце, ужо з канца лістапада 1943-га, Мікалай супакойвае бацькоў: «Вы можа думаеце, што я не атрымліваю, што вы дасылаеце, але я атрымліваю».

### «Выглядаю не горш, як дома»

Пра што пытаецца Мікалай у бацькоў? Як чалавек з вёскі, найперш цікавіцца гаспадарчымі працамі. Ці пасадзілі бульбу? Ці вазілі гной? Колькі выпала снегу? Ці праклалі дарогу праз «нашу дзялку»? Вядома, пытаецца пра здароўе ды лёсы родных, час-почас паведамляе пра землякоў, што сустрэў «на чужой старане», напрыклад: «Сепсяка дачка недалёка, усяго ў 67 кіламетрах...»

Асобная тэма — гэта апісанне сноў. Міколу сніцца, як бацькі «выпраўляюць» яго з Падароску, сніцца таксама хворы бацька, пасля чаго ён цікавіцца пра рэальны стан яго здароўя. Зразумела, усё гэта вельмі чалавечае, прычым, закаванае ў лаканічную форму кароткага ліста... У лісце з пачатку 1944-га года ёсць такі абарот: «Калі Госпад Бог дапаможа, то магчыма хутка вернемся, але калі няварты буду вярнуцца, дык нічога не паробіш. (...) Яшчэ прашу, каб прасілі Госпада, каб нас уз’яднаў».

На вялікі жаль, мы не маем фота Мікалая Давыдзюка, хоць у лістах ён згадвае, што дасылае па некалькі штук — і бацькам, і нейкай дзяўчыне. Зрэшты, сфатаграфавацца ў яго атрымалася не адразу, бо «сдёмщика» мясцовага, зразумела, немца, забралі на фронт. Таму — толькі варыянт пошуку атэлье ў Фраўэнбургу цягам нядзельнага шпацыру ў горадзе. «Мне тут добра, як выдадуць (фота)картку, то ўбачыце, што выглядаю не горш, як дома», — рэзюме Мікалай.

### «У вас грыміць ці не?..»

Цікавы сегмент — урыўкі інфармацыі пра знешні свет, якім, на жаль, аўтар надае вельмі мала значэння ў ліставанні. Напрыклад, напрыканцы лютага 1944-га года Мікалай піша, што чуў перадачу, нібыта ў Расіі выпала два метры снегу. Значыць, радыё яны ўсё ж такі слухалі. Іншы варыянт — інфармацыя, атрыманая па «сарафанным радыё», пра тое, як у іншага рабочага забілі сына пад Кіевам...

«Прашу вас, каб пісалі, што чуваць, бо тут языкамі шмат балбочуць, толькі як насамрэч невядома», — такую просьбу з нотkамі трывогі чытаем у лісце ад 15 траўня 1944 года. У іншым травеньскім лісце сустракаецца цікавы пасаж, які можна трактаваць двяякa: «У вас грыміць ці не? Бо тут са мной адзін з Высокалітоўска (?), дык яму пішуць, што грыміць...» Пра што размова? Пра травеньскую навальніцу і дождж ці пра лінію фронту, якая, нібы хваля, імкліва коціцца назад, з усходу на захад?..

*«Пока до свидание Дорогие родители и сестры кланяюсь Вам и целую Ваше лицо писал 6.5.44 год»*, — гэтае неймаверна простае і шчымлівае развітанне хочацца прывесці мовай арыгіналу і без знакаў прыпынку — так, як у лісце. Лістоў за чэрвень у архіве мы ўжо не знаходзім. Пра далейшы лёс Мікалая Давыдзюка ды ягонай сям’і не ведаем. Цалкам магчыма, што склаўся ён трагічна, бо выжыўшых остарбайтэраў, дэпартаваных назад у СССР, чакалі новыя фільтрацыйныя лагеры, а часцяком і ГУЛАГ... за «здраду савецкай радзіме».

### Замест пасляслоўя

У гэтым артыкуле я не ставіў за мэту пераканаць чытача, маўляў, усе остарбайтэры як сыр у масле каталіся. Наўпрост для аб’ектыўнага бачання сітуацыі мала эмоцыяў ды статыстыкі з дзясяткаў тысяч угнаных у Германію, але важныя асабістыя гісторыі ды сведчанні. Безумоўна, шмат для каго ўгон абярнуўся не толькі расстаннем з роднымі і блізкімі, але і нечалавечымі пакутамі на абаронных заводах. Для іншых — адзінай у жыцці магчымасцю ўбачыць вялікі свет, Еўропу, іншую цывілізацыю. Іншая справа, што вяртанне з гэтай 1–2-гадовай выправы дадому часам магло зацягнуцца альбо не адбыцца ўвогуле.

Фота аўтара

Уладзіслаў ГАРБАЦКІ

**Францыя праігнаравала першыя крокі маладой Беларусі. У зацемцы «Le Gaulois» паведамлялася пра дзейнасць Рады БНР, якая заклікала ануляваць Брэсцкі мір і абвясціла беларускую незалежнасць на тэрыторыі ад Гродна да Смаленску, ад Віцебску да Чарнігава. І гэта быў адзіны водгук на абвяшчэнне БНР. Аднак...**



**Гісторык Шарль Стыенон ведаў спецыфіку заходняй часткі Расійскай імперыі, а таму змог за тры гады да абвяшчэння БНР прадбачыць новыя памкненні «белых русаў» да стварэння дзяржавы. Ён лічыў, што вайна дапаможа беларусам здабыць незалежнасць: «Замест звычнай усім Расіі тут паўстане Белая Русь»**

# Што пісала французская прэса пра БНР і «беларутэнскае пытанне»?

Сто гадоў таму, калі Францыя з'яўлялася «вялікай дзяржавай», на прасторах разладнай Расійскай імперыі яна ведала і бачыла толькі Расію. Французы заўсёды мала цікавіліся Беларуссю. Тым не менш «беларускае», а дакладней «беларутэнскае пытанне» ў 1918 годзе вельмі рэдка, але ўсё ж такі агучвалася ў французскай прэсе. Вядома, што 25 сакавіка 1918 года Францыя ані прызнала, ані словам не адгукнулася ў прэсе на падзеі ў Мінску, калі беларусамі была зроблена першая спроба пабудовы ўласнай дзяржавы.

Са значным спазненнем (толькі 3 чэрвеня 1918 года!), выкліканым і дрэннай арыентацыяй Францыі ва Усходняй Еўропе, і тагачаснымі маруднымі камунікацыямі, адна з цэнтральных французскіх газет, правацэнтрысцкая «Le Gaulois» размясціла-такі зацемку ў рубрыцы «Расія» аб незалежнасці Белай Русі — «La Russie Blanche indépendante». І гэтая навіна падавалася як «анархія ў Расіі»! Праз салідарызаванне з расіянамі, расійскай культурай, якую шанавалі французы.

Францыя праігнаравала першыя крокі маладой Беларусі. У зацемцы «Le Gaulois» паведамлялася пра дзейнасць Рады БНР, якая заклікала ануляваць Брэсцкі мір і абвясціла беларускую незалежнасць на тэрыторыі ад Гродна да Смаленску, ад Віцебску да Чарнігава. І гэта будзе адзіным водгукам у французскай прэсе на абвяшчэнне БНР.

L'ANARCHIE EN RUSSIE

La Russie-Blanche indépendante

On mande de Pétrograde que la Rada de la Russie-Blanche a proclamé l'indépendance du pays, en revendiquant la province de Mohilef, une partie des provinces de Minsk, Grodno, Vilna, Vitebsk, Smolensk et Tchernigof. Cette indépendance rompant les liens de la Russie-Blanche et de la Grande-Russie, la Rada déclare considérer comme nul le traité de Brest-Litovsk et réclame sa revision pour la partie qui concerne la Russie-Blanche.

En Ukraine

Suivant des dépêches de source allemande, l'entente n'a pu se faire entre les délégués bolcheviki et les délégués ukraniens au sujet de la démarcation de la fron-

**Зацемка пра БНР з газеты «Le Gaulois», 3 чэрвеня 1918 года (Палякі ў Беларутэніі), у якім беларуская нацыянальнасць і беларускі рух бачыліся як «праект, задуманы немцамі» ў піку рускім, палякам ды ўсёй Еўропе. Жыхары «Беларутэніі» падаваліся за палякаў. Газета даводзіла, што ў кожным беларусе насамрэч схаваны паляк.**

Астатнія газеты, у тым ліку левага кшталту (напрыклад, «L'Humanité»), праігнаравалі падзею цалкам, бо ўспрымалі беларускае пытанне як унутрырасійскае, а часам да ўсяго бачылі ў актывацыі беларускай тэмы нямецкі след. Так, у тагачаснай прэсе беларусы часта апісваліся як «выдумка Немеччыны», якая такім чынам нібыта спрабавала ўзмацніцца ў рэгіёне.

Год счакаўшы пасля абвяшчэння БНР, іншая прагрэсісцкая па французскіх мерках газета, «La Lanterne», 21 жніўня 1919 года размясціла вялікі — адначасова прапольскі і пры гэтым антыбеларускі — артыкул пад назвай «Les Polonais en Ruthénie blanche». Кур'ёзнай і паказальнай выступае ў французскай прэсе назва Беларусі: сто гадоў таму ў французскай мове не існавала аднаго зафіксаванага панятку, каб апісаць Беларусь. Існаваў сапраўдны разнабой: часцей за ўсё Беларусь падавалася як ***la Russie Blanche,*** радзей ***la Blanche Russie,*** часта ў версіі ***la Russie-Blanche*** («Le Gaulois», «Le Petit Journal», «L'Humanité»), сустракаліся таксама назвы ***la Ruthénie blanche*** і ***la Russie lithuanienne*** («La Lanterne»).

А часам у тагачаснай прэсе панятак «Беларусь» проста адсутнічаў у дачыненні да тэрыторыі, на якой пражывалі беларусы, а край пазначаўся як Расія.

Да ўсяго, падчас вайны, калі немцы авалодалі тэрыторыяй, то «Le Petit Journal» пазначаў Беларусь паняткам «знямечаная Расія» (11.05.1918). Разнабой у французскай мове захаваецца да Другой сусветнай вайны, пасля якой Беларусь стане літаральна «Беларуссю» ***(la Biélorussie).*** Да сёння афіцыйна Францыя не прызнае версіі ***le Bélarus,*** карыстаецца паняткам ***(la Biélorussie),*** сфармаваным у выніку наўпроставага кантакту з расійскімі коламі, якія прэзентавалі і апісвалі нашу краіну на Захадзе.

Якраз гэты разнабой з назвай нашай краіны ў французскай мове выразна сведчыць пра малую зацікаўленасць тагачаснай Францыі беларускай тэмай. Гэты моўны разнабой тлумачыць другаснасць і часам адсутнасць у поле зроку Францыі Беларусі. Гісторыя мовы выразна дэманструе, што мы часцяком да сярэдзіны XX стагоддзя заставаліся для Францыі проста тэрыторыяй без назвы, пры гэтым Французская Акадэмія сцвярджае, што la Biélorussie ёсць традыцыйнай назвай нашай краіны.

Да ўсяго, дадатак ***«blanche»*** (белая) цягам усёй першай паловы XX стагоддзя будзе загрувашчаны іншымі значэннямі і стане дадатковай прычынай блытаніны, бо французы будуць апісваць белагвардзейскую Расію і расіян — прыхільнікаў царскай Расіі — як ***les Russes blancs, la Russie blanche*** (напрыклад, вядомая кніга Гастона Ру «L'Agonie de la Russie Blanche» («Агонія белай Расіі»). Вядома, гэта ніяк не паспрыяла большаму веданню пра Беларусь у французскім грамадстве.

На гэтым фоне выняткам глядзіцца адзіны станоўчы, прабеларускі, прарочы, смелы, праўда, багаты на стэрэатыпы і досыць фантазійны артыкул французскага журналіста, гісторыка і яшчэ аднаго маловядомага дасюль сімпатызанта Беларусі Шарля Стыенона — «La «Russie blanche», au-delà de Brest-Litovsk» («Белая Русь, па той бок Брэст-Літоўска»). Артыкул з'явіўся ў самы вір Першай сусветнай вайны ў кансерватыўным «Le Petit Journal'е» (4.09.1915), і нечакана французская газета забегла наперад гісторыі і абвясціла, што вось-вось на мапе з'явіцца новая краіна — ***la Russie Blanche.***

Гісторык Шарль Стыенон (1883 года нараджэння, год смерці не ўстаноўлены) добра ведаў спецыфіку заходняй часткі Расійскай імперыі, а таму змог за тры гады да абвяшчэння БНР прадбачыць новыя памкненні «белых русаў» да стварэння дзяржавы. Іншая такая спроба, паводле Шарля Стыенона, мела месца ў 1812 годзе, калі Напалеон спрабаваў падтрымаць мясцовую шляхту і арыстакратыю ў падобным памкненні. Гісторык лічыў, што гэтым разам сама вайна дапаможа беларусам здабыць незалежнасць: «Замест звычнай усім Расіі тут паўстане Белая Русь».

Праўда, потым гісторык занадта рамантызаваў і містыфікаваў Беларусь, асабліва яе прыроду, амаль заклікаў французаў заказаць ў Палессе, сакавіта апісваў Белавежскую пушчу, пры гэтым стэрэатыпізаваў самога беларуса — маляваў яго як заўсёды беднага і адвечна хворага на каўтун.

І гэта будзе адзіны артыкул Шарля Стыенона пра Беларусь, і адзіны артыкул у тагачаснай французскай прэсе наогул, які за тры гады да БНР закрануў пытанне незалежнасці Беларусі. Пытанне, да якога Францыя будзе вымушаная вярнуцца толькі ў 1991 годзе. Пытанне, якое часта ставіцца пад сумнеў у сучасным свеце, а часам унутры самой Беларусі.




**Мапа Беларусі за 1915 год з газеты «Le Petit Journal» 4.09.1915, аўтар Шарль Стыенон**


Фота Яўгена Стэльмаха


**Удзельнікі танцаў у кавярні Грай.** Фота Генадзя Скалабана

# Мабільны танцпол: што і навошта?

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**На краўдфандынгавай пляцоўцы «Талака» ідзе збор сродкаў на народны мабільны танцпол. Што гэта і навошта?**

### Што да чаго?

Супольнасць аматараў народных танцаў Беларусі ўвесь час пашыраецца. Па нядзелях танчаць у мінскай кавярні «Грай» (пачатак а 19.00, уваход вольны), а як пацяплее, вечарыны пераедуць у Музычны завулак. Рэгулярна праходзяць танцы ў Магілёве, Бабруйску, Гомелі, Маладзечне, Барысаве, Любані, Смаргоні, у цёплы сезон — у Гродна, час ад часу — у Баранавічах і Клічаве. Усе вечарыны адбываюцца ці ў памяшканнях, ці на асфальце. Але патрэбы танцораў пашыраюцца: супольнасць хоча зрабіць мабільны народны танцпол!

Мабільны танцпол — нешта кшталту перасоўнай драўлянай пляцоўкі, якую можна скласці і на беразе ракі, і ў лесе, і на любой сядзібе. Гэта істотна, бо пыл, бруд, няроўнасці глебы часам робяць танцы ў прыродных умовах даволі праблематычнымі — калі ўвогуле магчымымі.

Кіраўніца праекта Вольга Трубач тлумачыць: «У танцы істотна адбіваць рытм, чуць сябе. А ў траве ці брудзе, на няроўнай паверхні гэта складана. Мы хочам пашырыць геаграфію танцаў на розныя рамантычныя мясціны, вёскі, аграсядзібы. Збор танцпола будзе займаць прыкладна адзін дзень. Яго аснову складуць паддоны і дошкі. Канструкцыя, распрацаваная кавалём з вёскі Дудзінка з-пад Барысава Алесем Панцяем. Удзельніца праектнай каманды Ганна Клімашэўская распрацавала макет мабільнага танцпола, які дазваляе кампенсаваць няроўнасць глебы. Іншая ўдзельніца каманды, Наталля Голава, распавядала, як танчыла на разборных танцполах падчас фестываляў у Польшчы».

### Каб не ламалі ногі...

Ідэю мабільнага танцпола высока ацаніў рэжысёр і прадзюсар, танцор з амаль 20-гадовым стажам Аляксей Бурнасенка. «Вельмі прыемна, што ў беларускім этнаграфічным руху ёсць шанец на з'яўленне такой сцэны. З аднаго боку, я — аматар большай аўтэнтычнасці: калі я пачынаў выкладаць, прызвычаіўся да травы ды зялёных лужкоў. Калісьці мы стварылі танцавальны тэатр «Яварына» і дапамагалі як Go-Go падтрымка гурту «Стары Ольса» — і выкладалі на траве ці зямлі. Вельмі добра памятаю, якой колькасцю расцяжэнняў сухажылляў, якімі траўмамі заканчвалася любая ямка на танцпляцоўцы. А калі танкласы працягваюцца больш за два дні, пляцоўка ператвараецца ў пыл ці бруд, у залежнасці ад надвор'я», — кажа танцор.

«За апошнія амаль 20 гадоў я наглядзеўся на аўтэнтычныя імпрэзы і фестывалі ў Еўропе і ЗША. І нават на малюткім хутары Броды, на поўначы Польшчы, для танцаў у тры пары пабудавана драўляная сцэна. Таму я ўпэўнены ў карысці гэтага праекта. Для мяне пакуль пытанне, як будзе размяркоўвацца гэты рэсурс — як, напрыклад, невялічкая Барысаўская суполка зможа замовіць і атрымаць гэтую сцэну для сваіх танцкласаў. Але я спадзяюся на шчырасць і сумленнасць каманды праекта. І яшчэ спадзяюся, што дзякуючы гэтаму праекту этнаграфічнае жыццё Беларусі выйдзе на новы ўзровень», — адзначае Бурнасенка.

Калі збор грошай пойдзе па плане, народны танцпол будзе дзейнічаць у 2018–2019 гадах як мінімум на трох танцавальных івентах. Гэта танцавальны летнік «Жнівеньскія пратанцоўкі ў Любках» (Вілейскі раён, жнівень); свята «Багач» у Вязынцы (Маладзечанскі раён, верасень); свята «Гуканне вясны» ў Вязынцы (Маладзечанскі раён, сакавік).

Уражаннямі ад свята «Багач» падзялілася Ганна Клімашэўская: «Багач мне запомніўся як цёплая сустрэча з сябрамі, вясёлыя танцы, забавы, душэўны спеў. На прыродзе ўсё атрымліваецца гарманічна, само сабой, у сваё задавальненне». Такая ж цёплая атмасфера пануе, бадай, на ўсіх імпрэзах, што ўлучаюць танцавальную частку. Танцы здымаюць бар'еры між людзьмі нашмат лепш за гарэлку!

### Тэхналогія танцавальнай ініцыятывы

Арганізатары збору сродкаў, ініцыятыва «Свае танцы» (дзейнічае на базе Студэнцкага этнаграфічнага таварыства) могуць зладзіць дармовы танцавальны майстар-клас з жывой музыкай у любым населеным пункце Мінскай вобласці, калі будзе мясцовая ініцыятыва. Як распавядае Вольга Трубач, па-за буйнымі гарадамі людзі часта не хочуць наведваць імпрэзы, збольшага занятыя хатнімі справамі. А калі яны ўсё ж трапляюць на танцавальныя вечарыны, то тыя робяцца для іх сапраўдным адкрыццём. Напрыклад, у Смаргонь ініцыятыва ехала «ў нікуды», не былі ўпэўненыя, што нехта прыйдзе. Але сабралася з два дзясяткі актыўных жанчын пенсійнага ўзросту. Яны распавядалі, як іх знаёмая наведвала падобныя вечарыны ў Рызе, але да таго вечару неяк і не думалі, што падобныя сустрэчы могуць адбывацца ў іх горадзе. У ідэале — мясцовыя падхопліваюць ініцыятыву, знаходзяцца музыкі, утвараецца супольнасць танцораў... І справа ідзе. Так адбылося ў Маладзечне (Этнаграфічны клуб «KOLA»), Барысаве (суполка «МызаТанцы»). На жаль, так атрымліваецца не ўсюды.

### Чаму і навошта людзі ахвяруюць на мабільны танцпол

Антось Бельскі, першы спонсар праекта на «Талацэ», зазначае: «У Беларусі стала адбываюцца імпрэзы на вольным паветры. Зямля не заўсёды бывае прыдатнай для танцаў, гэта залежыць ад надвор'я. Мабільная пляцоўка дазволіць падстрахавацца ад такіх сюрпрызаў ды зробіць танцы на вольным паветры больш прывабнымі».

Настасся Духоўнікава падтрымала праект другой: «Захапляюся сярэднявечнымі, а найбольш — беларускімі танцамі, яны даюць радасць, энергію. Калі разважаць высока, то гэта частка нашай культуры, у якую я з цікавасцю і пачуццём гонару ўліваюся. Цудоўна, калі будзе мабільны танцпол, які можна пакласці на зямлю, замест таго, каб мясіць нагамі бруд. Цывілізавана і зручна для масавых танцавальных мерапрыемстваў на вольным паветры».

Праект «Народны танцпол» дапаможа прыцягнуць да танцавальнага руху больш людзей, падвысіць якасць імпрэзаў, што ўжо сталі традыцыйнымі, і паспрыяе развіццю новых праектаў. І хто яго ведае, як можа закруціцца народная танцпольная гісторыя?



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў».
Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №49

Падпісана да друку 20.04.2018. 8.00.
Наклад 2500 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.